# Хвалюючыя старонкі

Многа слаўных, гераічных старонак упісалі ў гісторыю барацьбы народа за сваё вызваленне беларускія партызаны. Іх мужнасцю, адвагай і смеласцю захапляўся ўвесь свет.

Вось што пісалі партызанам Івянецкага раёна камсамольцы і моладзь Маскоўскага аўтазавода: «З любоўю і радасцю сочым мы, масквічы, за вашай гераічнай барацьбой. Мы ганарымся, таварышы, што вы бязлітасна знішчаеце фашысцкіх вылюдкаў, разбуральнікаў нашай маладосці і шчасця, забойцаў нашых бацькоў і мацярок. Лютая нянавісць да гітлераўскіх захопнікаў кліча нас на гераічную працу. Сваю нянавісць мы ўвасабляем ў тысячы тон баявой прадукцыі, якую выпрацоўваем звыш плана...»

Гэтае пісьмо было перапісана ад рукі, перадрукавана на машынках і раздадзена па ротах і атрадах. Яго абмяркоўвалі на камсамольскіх сходах. У адказ камсамольскія актывісты і моладзь партызанскай брыгады пісалі: «З найвялікшым натхненнем і радасцю прачыталі мы і абмеркавалі ваша пісьмо з роднай і любімай Масквы. Яно натхняе і кліча нас на гераічную барацьбу з нямецкімі катамі...»

Народ памятае і свята будзе шанаваць тых, хто ў змрочныя гады нямецкай акупацыі не скарыўся, не стаў на калені перад ворагам, а са зброяй у руках адстойваў незалежнасць сваёй дзяржавы. І як добра, што моладзь наша мае магчымасць гартаваць сваю волю на гэтых баявых традыцыях. Кнігі пра незабыўныя дні ўсенароднага змагання адкрываюць перад маладым пакаленнем вялікую навуку нянавісці да ворагаў, любві да Радзімы і партыі.

Нядаўна выйшаў у свет зборнік успамінаў беларускіх партызан *), падрыхтаваны Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР і Дзяржаўным музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Гэта — хвалюючыя старонкі з гісторыі гераічнай барацьбы і змагання беларускага народа пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі. Успаміны — не мастацкі твор. Але кніга чытаецца ад першай да апошняй старонкі з неаслабнай увагай і хваляваннем. Бо пішуць самі ўдзельнікі, пішуць пра людзей, якія нічога не шкадавалі ў імя перамогі.

Чытаеш гэтую цікавую кнігу і бачыш, як рос і шырыўся партызанскі рух на Беларусі, ператвараючыся ва ўсенародную барацьбу з фашысцкімі захопнікамі, як сціплыя і простыя савецкія людзі, абараняючы нашу Радзіму, рабіліся героямі.

Вось браты Іван і Міхаіл Цубы з вёскі Навіны, што на Піншчыне. Аднойчы з'явіўшыся ў вёсцы, фашысцкія карнікі запатрабавалі ад Міхаіла, каб ён паказаў дарогу да партызан.

— Няхай вам ваўкі пакажуць тую дарогу, — сцяўшы зубы, сказаў Міхаіл.

І тут жа эсэсаўскі афіцэр забіў старога, хворага чалавека. Паказваць дарогу прымусілі Івана, якому мінула 75 год.

«І Іван Цуба павёў эсэсаўцаў, — піша Васіль Захаравіч Корж. — Ідучы наперадзе, ён завадзіў іх у бок ад урочышча Вербы, ад родных вёсак, заманьваючы ў такую глухамань, куды і звяры не забягалі. Ледзь не топячыся ў балотнай твані, адолелі дзесяць кіламетраў і, нарэшце, спыніліся ля гнілой рачулкі Лань. Стары цяжка апусціўся на пень і, насмешліва разглядаючы ўзапрэлага афіцэра, спакойна сказаў:

— Далей ісці няма куды... Тут вы і замерзнеце, паздыхаеце з голаду або вас знішчаць партызаны».

Так рабілі савецкія людзі, беручы прыклад з вялікага патрыёта Івана Сусаніна.

Удар прыкладам па галаве аглушыў Івана. Ён ужо не пачуў і не адчуў стрэлу ў патыліцу...

З першых дзён вайны партызаны не давалі спакою захопнікам. Дыверсіі, напады на гарнізоны ворага, на чыгунку і шашу — усё гэта зрывала дастаўку на фронт войск, зброі і харчавання, усё гэта адцягвала вялікія воінскія злучэнні з фронта. Савецкія людзі знішчалі акупантаў, як маглі і чым маглі — гаечным ключом і сякерай, вінтоўкай і кулямётам.

А камсамольцы! Ды яны заўсёды былі наперадзе, ішлі на самыя цяжкія заданні, не ведаючы стомы і страху. У вёсцы Прудзіны Віцебскай вобласці нарадзіўся Іван Чуклай. Семнаццаць год было юнаку, калі пачалася вайна, і з першых дзён вайны ён стаў у рады народных мсціўцаў. Іван пісаў сваёй маці: «Дарагая матуля, учора я атрымаў атэстат сталасці і павінен быў выехаць 25-га, але на нашу краіну напаў вораг, трэба яе абараняць».

Мужны і смелы гэта быў юнак. У атрадзе любілі яго, а камсамольцы выбралі сваім важаком. Моцна ненавідзеў ён ворага і біў яго без промаху.

Летам 1942 года там, дзе цяпер узводзіцца калійны камбінат, размяшчаўся вялікі варожы гарнізон. Фашысты здзекаваліся з мірнага насельніцтва Чыжэвіч, Мяцявіч, Пагоста і іншых вёсак. Камандаванне брыгады вырашыла знішчыць варожы гарнізон. Правесці гэтую аперацыю было даручана ўдарнай групе Івана Чуклая.

Шэсць гадзін ішоў гэты цяжкі крывавы бой, з якога партызаны выйшлі пераможцамі. А надвячоркам, калі група народных мсціўцаў праходзіла каля вёскі Мяцявічы, зноў давялося пачаць няроўны бой з ворагам. Фашысцкай куляй быў паранены камісар атрада Мікіта Бандаравец. Яму на дапамогу кінуўся Чуклай. Ратуючы камісара, ён сам атрымаў смяртэльную рану. Іх пахавалі на месцы бою — на ўскраіне вёскі Мяцявічы. І тады пра героя Чуклая партызаны склалі песню:

Там, дзе рэчка Случ гамоніць
З ветрам шумным на Палессі,
Пра Чуклая слава ходзіць —
Баявая наша песня.

Ён пакляўся перад боем:
«Я люблю сваю краіну!» —
Камсамольцам і героем
За яе ў баі загінуў.

Сёння імя партызана-героя носіць адна з лепшых брыгад на будоўлі Старобінскага калійнага камбіната.

Баявыя справы беларускіх партызан развеялі міф, які настойліва распаўсюджвалі гітлераўцы аб тым, што нібыта не было партызан у 1941-42 гадах. У кожным раёне рэспублікі гартаваліся партызанскія сілы. Гэта ж факт, што вясною 1942 года ў партызанскім краі, які ахопліваў частку тэрыторыі Суражскага, Віцебскага, Гарадоцкага і Мехаўскага раёнаў, была аднаўлена Савецкая ўлада. Краем партызанскай славы быў Акцябрскі раён. Аднаўлена была Савецкая ўлада ў Асвейска-Расонскай зоне і ў многіх іншых раёнах рэспублікі.

Усю сакрушальную сілу партызанскага агню гітлераўцы адчулі летам 1943 года, калі па загаду Цэнтральнага партызанскага штаба па ўсёй рэспубліцы была праведзена аперацыя «канцэрт». Гэта быў цудоўны «канцэрт». Ляцелі пад адхоны паравозы, вагоны, зброя і жывая сіла праціўніка. А народ назваў гэтую аперацыю «рэйкавай вайной».

Многія старонкі кнігі расказваюць пра шчырую братнюю дружбу і ўзаемадапамогу беларускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх і рускіх партызан. Да партызан пераходзілі славакі, венгры, чэхі, каб разам змагацца за агульную справу. У кнізе чытач знойдзе нямала хвалюючых эпізодаў пра гэтую суровую салдацкую дружбу.

**Я. КАЛЯДА.**

* З гісторыі партызанскага руху ў Беларусі (1941—1944 гады). Зборнік успамінаў. Белдзяржвыдавецтва. 1961. Стар. 505.



**«ПАРТЫЗАН».** Работа самадзейнага скульптара **П. Герасіменкі** з сяла Даўгінава Крывіцкага раёна Мінскай вобласці.

## Нарада маладых пісьменнікаў

Дзесяць дзён працягнецца рэспубліканская нарада-семінар маладых празаікаў, паэтаў, крытыкаў. З усіх куткоў рэспублікі з'ехалася каля сарака пачынаючых літаратараў, настаўнікаў, студэнтаў, журналістаў. А. Кудравец, Т. Казлоўская, В. Чымірка, Ул. Стальмашук, С. Курылёва, В. Карамазаў, Л. Гаўрылкін, напрыклад, пішуць прозу, а В. Макарэвіч, А. Вярцінскі, М. Кусянкоў, П. Воранаў, Ул. Правасуд — паэты.

Нарада адкрылася ў Каралішчавічах 5 мая. Перад яе ўдзельнікамі выступілі намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін і сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Жабіцкі.

У праграме нарады — даклад Ул. Няфёда «Літаратура і сучаснасць», гутаркі аб майстэрстве, якія праводзяць празаік Я. Скрыган і паэт М. Лужанін; сустрэчы са старэйшымі пісьменнікамі, з рэдактарамі літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў, экскурсіі ў літаратурныя і мастацкі музеі.

## Вечар памяці Рабіндраната Тагора

У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вялікага індыйскага пісьменніка Рабіндраната Тагора.

Вечар адкрыў старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі І. Казлоў. З дакладам «Вялікі сын індыйскага народа — Рабіндранат Тагор» выступіў пісьменнік Міхась Лынькоў. Ён адзначыў, што першае месца ў індыйскай літаратуры належыць Тагору, выдатнаму пісьменніку, мысліцелю і грамадскаму дзеячу. Усё яго жыццё і ўсё што ім напісана,—гнеўны пратэст супраць бяспраўнасці і прыніжэння народа, страсная абарона чалавека любой нацыі, любога колеру скуры, нястомная прапаведзь міру і раўнапраўнасці людзей. Вось чаму вялікі Тагор так блізкі і савецкім людзям.

Удзельнікі вечара пазнаёміліся з фотавыстаўкай «Рабіндранат Тагор — верны друг Савецкага Саюза» і прагледзелі спектакль.

## З канцэртам да суседзяў

Калектыў мастацкай самадзейнасці Колкаўскага сельскага клуба Капаткевіцкага раёна даў змястоўны канцэрт для жыхароў вёскі Варатынь Калінкавіцкага раёна. У праграме канцэрта былі беларускія народныя песні, вершы, танцы. Асабліва суседзям спадабаліся выступленні самадзейных артыстаў Розы Міранові, Галіны Плыткевіч, Ольгі Шэцка.

**В. ЛОЎГАЧ.**

# Густы трэба выхоўваць

У многіх хатах жыхароў Астравецкага раёна можна ўбачыць розныя відоўкі і ўпрыгожванні. Тут і традыцыйныя лебедзі, і велізарныя каты, і ядавітыя ружы розных памераў. Гэтую «прадукцыю» можна знайсці на рынку ў Міхалішках, Варнянах і іншых вёсках. І калгаснікі купляюць яе. Што ж, дзівіцца з гэтага не прыходзіцца. Кожнаму хочацца ўпрыгожыць сваё жыллё, зрабіць яго больш утульным.

На жаль, у Астраўцы немагчыма купіць добрую карціну.

Нядаўна ў кааперацыю паступіла партыя малюнкаў нейкай арцелі, якая нават пасаромелася паставіць сваю марку на «творах». А яны нескладаныя: на лісце зялёнай кардоннай паперы намаляваны букет кветак у кошыку. Памер салідны — больш квадратнага метра. Адпаведная і цана— 1 рубель 37 капеек. Выбару не было, і малюнкі былі раскуплены. І красуюцца цяпер гэтыя няўклюдыя букеты-гіганты ў многіх хатах як дакор работнікам гандлю і мастацкіх арцелей.

Многа рэпрадукцый з вядомых карцін у кніжным магазіне Астраўца. Але аб іх мала хто ведае, бо ляжаць яны на складзе. Таваразнаўца Ул. Падалянчык рэалізуе іх трохі незвычайным спосабам. Ён загортвае ў іх кнігі, калі высылае пакупнікам.

А можна было арганізаваць у магазіне ці нават у раённым Доме культуры выстаўку рэпрадукцый з карцін. На яе варта было б запрасіць людзей, якія добра разумеюць мастацтва. Такіх нямала ёсць сярод інтэлігенцыі раёна. Яны растлумачвалі б творы вялікіх мастакоў. Шкада, што аб гэтым не думаюць работнікі раённага аддзела культуры.

Мастацкі густ у чалавека патрэбна выхоўваць яшчэ змалку. Асабліва жыватворчы ўплыў на фармаванне эстэтычных поглядаў павінна рабіць школа, настаўнікі. На жаль, гэтага нельга сказаць пра нашых настаўнікаў. Бывае, што яны не толькі не дапамагаюць дзецям разумець прыгожае, але псуюць густ школьнікаў. Мне даводзілася бачыць выстаўкі работ вучняў раёна. Выхаванцы Варнянскай школы-інтэрната экспанавалі серыю ілюстрацый да баек Крылова. Усе яны выпалены па дрэву з добрым густам, тонка і старанна. Папрацавалі дзеці і над стварэннем прыгожых вышывак па матывах народных казак. Гледачам спадабаліся гэтыя творы.

Але на выстаўку пранікла многа выпадковага, разлічанага на непатрабавальны густ. Асабліва гэта датычыцца вышывак. Міхалішская сярэдняя школа апошні раз паказала аж цэлую серыю папугаяў, кошачак з кветкамі.

Няўжо вучням цікава працаваць над такімі малюнкамі? Вядома, гэта ўплыў настаўнікаў, бо яны ж, а не хто іншы даюць заданні вышываць па трафарэтах, якіх яшчэ нямала выпускаюць нашы арцелі, майстэрні.

А ці нельга было б выкарыстаць для вышывання лепшыя малюнкі саміх школьнікаў. На выстаўцы вучні Міхалішскай школы паказалі партрэты, пейзажы сваёй работы. Вось іх і трэба было ўзяць за ўзоры для вышывак, выпільвання або выпальвання. А то далі дзецям трафарэты мяшчанскай непатрэбшчыны і лічаць, што вучні займаюцца творчай працай. Гэта ж не творчасць, а сляпое перайманне дрэнных узораў.

Добраму густу трэба вучыцца ў народа. У тых жа Міхалішках пры сельскай бібліятэцы наладжваюцца выстаўкі твораў самадзейных мастакоў. Ёсць вышыўка не толькі крыжам, але і гладдзю, рышэльe. І зроблена яна без трафарэтаў. Багата паказалі міхалішскія ўмельцы карункавых вырабаў, саматканых абрусаў і посцілак, якія радуюць вока спалучэннем узораў, багаццем колераў. Вось дзе можна павучыцца педагогам школы, каб пасля выхаваць у дзяцей любоў да сапраўды прыгожага, адкінуць усё непатрэбнае!

Нялепшае становішча і ў іншых школах. Вучні вышываюць, малююць такіх жа папугаеў, цыганачак, робяць шкатулкі, безгустоўна аформленыя. На першы погляд гэта быццам не мае вялікага ўплыву на развіццё светапогляду дзяцей. Аднак гэта не так. Зайдзіце ў кватэру вучня і там можна ўбачыць на сцяне такіх жа коцікаў. Іншыя маці, магчыма, і непрыязна глядзяць на падобныя ўпрыгожанні. Але што зробіш— дачка прынесла вышыўку са школы. Вось і застаюцца дома такія недарэчныя вырабы, псуюць увесь выгляд жылля. А вырасце дзяўчына — і ёй будзе здавацца нармальным такое аздабленне пакоя.

Станоўчы прыклад паказвае Астравецкая сярэдняя школа. Тут у зале арганізавана выстаўка рэпрадукцый з вядомых твораў рускіх і савецкіх мастакоў. Сярод іх ёсць серыя карцін Пярова, Рэпіна, Сурыкава, Васняцова, творы Грэкава, Бродскага. Побач з рэпрадукцыямі размешчаны біяграфіі аўтараў і расказ аб іх творчасці.

Кожную суботу аддаецца гадзіна на эстэтычнае выхаванне. Да яе загадзя рыхтуе даклад адзін з вучняў. Расказ суправаджаецца разглядам карцін. Вучні рыхтуюць таксама агляды творчасці вядомых кампазітараў. Выконваюцца запісы іх музыкі. Такія заняткі ўзбагачаюць духоўны свет школьнікаў, вучаць іх разумець сапраўды прыгожае, крытычна аналізаваць творы. Іх трэба праводзіць у кожнай школе.

Шырокім фронтам павінны наступаць на пошласць у мастацтве ўсе школы, сельскія культасветустановы, вясковая інтэлігенцыя. У нас жа часта мала хто і ведае аб майстрах-самавуках, якія ствараюць таленавітыя творы. Ткачыха Ядзвіга Стаціна далёка праславілася сваімі вырабамі. Яе лепшыя посцілкі пасланы аж у Народны Кітай. У хаце Стацінай ёсць дываны, прыгожыя абрусы, затканыя цікавымі ўзорамі, народнымі арнаментамі. Але ў раёне мала хто ведае аб таленавітым майстры.

Кажуць, што аб густах не спрачаюцца. Гэта няправільна. Мы павінны не толькі спрачацца, але і выхоўваць добры мастацкі густ. Толькі ў выніку настойлівай барацьбы можна дабіцца таго, што на рынках больш не будуць паяўляцца распісныя лебедзі, кошачкі і іншыя «шэдэўры» халтуры.

**І. ГРАБЛЕЎСКІ.**

Астравец.

## Работнікі кінастудыі — у салігорцаў

У клубе Салігорскага калійнага камбіната адбылася сустрэча работнікаў кінастудыі «Беларусьфільм» з шахцёрамі і будаўнікамі. Тут прысутнічалі рэжысёры Б. Сцяпанаў, Ул. Тураў, С. Браудэ і кінааператар І. Рэмышэўскі. Прысутным быў паказан кінафільм «Расказы аб юнацтве», які складаецца з чатырох навел. Работнікі студыі расказалі аб тым, як яны ажыццяўлялі пастаноўку гэтых фільмаў.

**С. СЯМЁНАЎ.**

У розных гуртках мастацкай самадзейнасці Палаца культуры Гродзенскага тонкасуконнага камбіната ўдзельнічаюць ткачыхі, прадзільшчыцы, інжынеры, тэхнікі і служачыя прадпрыемства, а таксама члены іх сем'яў. Іх выступленні карыстаюцца вялікім поспехам сярод працоўных горада.

**На здымку:** удзельніцы танцавальнай групы ватаршчыца Маргарыта **Круцялёва** (злева), настаўніца Раіса **Сазонава,** школьніцы Валянціна **Касцевіч** і Таісія **Кульбіцкая,** ткачыха Нэлі **Кеменава** і Вольга **Паўлава** выконваюць рускі народны танец «Бярозка».

Фота **А. Перахода.** (Фотахроніка БЕЛТА).

# Гвардыі капітан

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Добра ваяваў гвардыі капітан А. Казлоў. Але скончылася вайна, і яго зноў пацягнула да мірнай стваральнай працы. Партыя і Савецкі ўрад, кіруючыся міралюбнай палітыкай, пайшлі на значнае скарачэнне сваіх Узброеных Сіл. У ліку іншых быў зволен у запас і Аляксандр Сяргеевіч. Служыў ён у той час на тэрыторыі нашай рэспублікі. Тут ажаніўся, дэмабілізаваўся, тут і застаўся працаваць на Мінскім аўтамабільным заводзе.

Спачатку прызначылі яго на пасаду дыспетчара, а заўважыўшы добрыя арганізатарскія здольнасці, накіравалі начальнікам участка ў чыгуна-ліцейны цэх.

Хутка ў працы мінаюць гады. Шмат, ой, як шмат паспелі ўжо зрабіць за гэты час савецкія людзі! А колькі спраў яшчэ наперадзе!

Хутка ляціць час. Толькі, здаецца, разгаварыліся, глядзіш — і зноў пара Аляксандру Сяргеевічу ісці працаваць.

— Можаце не паверыць, а я свайму жыццю цяпер сам зайздрошчу, — неяк узнёсла падкрэслівае А. Казлоў. — Дачка ў мяне, Святлана, вучыцца ў восьмым класе агульнаадукацыйнай школы і ў шостым класе музычнай. Сын Аляксандр адпаведна ў шостым і ў другім класе музычнай. Кватэра, як і ва ўсіх аўтазаводцаў, добрая, праца радуе — ну, чым жа не сапраўднае шчасце? Ды мы за такое жыццё...

Аляксандр Сяргеевіч не дагаварвае да канца. Ён глядзіць на гадзіннік і просіць прабачэння: патрэбна яшчэ раз да пачатку новай змены праверыць гатоўнасць участка.

Неаднаразова даводзілася чуць, што арганізацыйная работа няўдзячная. Іншая справа — токар, шліфоўшчык, абрубшчык... Закончыў змену — і адразу відаць, як выканана заданне. А тут круцішся цэлы дзень, як вавёрка ў коле, і асабістай тваёй работы зусім не відаць. Бо не скажаш, што «арганізацыю сацыялістычнага спаборніцтва за змену выканаў на столькі працэнтаў, а забеспячэнне нармальных умоў працы і тэхнікі бяспекі — у столькі разоў, выхаваўчай работы — на столькі працэнтаў» і гэтак далей.

Але Аляксандр Сяргеевіч прытрымліваецца іншай думкі. Плён сваёй працы ён бачыць у поспехах усяго ўчастка, усяго ліцейнага цэха. Няхай сабе іншыя ўчасткі выканаюць вытворчыя заданні хоць на 500 працэнтаў, усё роўна вынікі іх працы будуць відны толькі тады, калі абрубачны ўчастак паспяхова справіцца са сваім заданнем. Бо не хто іншы, як яны, абрубшчыкі, даводзяць да канца ўсю працу шматлікага калектыву і «адчытваюцца» за яе гатовымі дэталямі і вузламі да аўтамашын.

Радасна адзначыць, што ўчастак, якім кіруе Аляксандр Сяргеевіч, яшчэ ні разу не падвёў сваіх сяброў. Нездарма ж ліцейны цэх з пачатку гэтага года цвёрда трымае ў сваіх руках пераходны Чырвоны сцяг завода і змагаецца за ганаровае званне цэха камуністычнай працы. Адсюль няцяжка зразумець і тую ролю, якую адыгрывае ў гэтай справе «няўдзячная» арганізатарская работа.

— Мне, нават, цяжка ўявіць сабе наш участак без Аляксандра Сяргеевіча, — гаворыць рабочы Уладзімір Жураўскі. — Ён навылёт бачыць душу чалавека. Такому не зманіш і не падвядзеш яго. Сумленне не дазволіць. Любяць і паважаюць яго нашы рабочыя. А, ведаеце, за што? За тое, што ён не толькі патрабуе, а ўмее дапамагчы, навучыць, падтрымаць.

Я развітаўся з Аляксандрам Сяргеевічам, з цудоўнымі людзьмі —аўтазаводцамі. З галавы ў мяне не выходзілі гэтыя словы, сказаныя ў адрас начальніка ўчастка.

Як важна навучыцца разумець душу чалавека, дапамагчы яму ў патрэбную хвіліну!

Дзе навучыўся гэты былы салдат авалодаць такім неацэнным скарбам? І адказ напрасіўся сам сабой: ён у самыя цяжкія дні для нашага народа бачыў бязмерную веліч і чысціню душы савецкіх людзей, душы, што здабыла гэты светлы дзень Перамогі, што ў вялікіх і малых надзённых справах гартуе новую, больш значную перамогу камунізма.

**І. МЯЦЬКО.**



Маладое прадпрыемства Брэста—дывановы камбінат павялічвае выпуск прадукцыі. За першы квартал гэтага года выпушчана звыш плана каля трох тысяч квадратных метраў дываноў.

На камбінаце працуе мастацкая майстэрня, якая распрацоўвае эскізы новых дываноў.

**На здымку:** у мастацкай майстэрні. Мастакі **У. Гусеў, В. Сенькіна** і **Ю. Васільеў** працуюць над эскізамі новых дываноў.

Фота **М. Мінковіча.**

Аляксей **КУЛАКОЎСКІ**




*Урывак з новага рамана «Сустрэчы на ростанях»*

Ідучы ў санчасць брыгады, Ладуцька нечакана трапіў пад кулямётны, хоць ужо і не надта трапны ў паўзмроку, абстрэл. У гэты час ён якраз пераходзіў тванную балоціну, з разгону плюхнуўся ў яе, сумка на ляту перакруцілася і асталася на самай спіне. Нічога кепскага тут не было б, каб яго мад'ярская паходня і на гэты раз была набіта толькі рознымі лістоўкамі ды брашурамі, якія Кандрат старанна збіраў і захоўваў ледзь не з самага пачатку вайны. Бяда ў тым, што перад выхадам ён запхнуў сюды даўгахвостую нямецкую гранату, якая вельмі дрэнна трымалася на поясе. Граната з капсулем. Калі хоць адна куля пападзе ў сумку, хто ведае, што можа выйсці...

Ладуцька ўвесь час з жудасцю адчуваў гэтую сумку, яна ціснула, нібы пякла яму спіну, але ніяк нельга было павярнуцца, каб перакруціць яе. Кулі са злавесным пасвістам праляталі над самай галавой, утыкаліся ў балотны мох так блізка, што іржавымі пырскамі залеплівалі вочы. Страшна было пальцам паварушыць, а не то што рукой. І Ладуцька з кожным момантам чакаў смяртэльнага выбуху. Усе гэтыя дні стараўся не думаць пра тых няшчасных пасланцаў, якія загінулі па яго віне. Нават пасля размовы з Андрэем адганяў гэтыя жудасныя ўспаміны. А цяпер усё гэта жывасілам лезла ў галаву, з усёй сваёй выразнасцю з'яўлялася перад вачамі і стаяла доўга, нібы сцвярджаючы і нацвёрда запэўняючы, што вось зараз, няхай праз момант, няхай праз два, але будзе з табою тое самае, што было з тымі людзьмі. І нікуды ты цяпер не дзенешся, і нішто цябе не выратуе!

«Дык я ж дачку іду праведаць! — гатоў быў крычаць Ладуцька ў сваіх унутраных спрэчках. — У мяне дачка пры смерці!»

«У тых таксама былі дочкі, — адказваў яму другі голас.—І, можа, таксама хворыя. У іх былі сёстры, мацяркі... Вось жа асталася Марыя, даччына сяброўка. Гэта ж родная сястра аднаго з тых...»

А кулі ўсё ціўкалі. Пахаладзелай, дрыготкай спіною Ладуцька адчуваў, што некалькі з іх трапіла ўжо і ў сумку, бо яна тырчыць над балотам і служыць мішэнню. Нямецкая граната ў самым куточку. Няўжо гэтакі нешчаслівы той куточак?..

І выйшла, што Ладуцьку сапраўды можна было паверыць у нейкае цуда: у куточак куля не пацэліла. Неўзабаве агонь паменшаў, а праз некаторы час зусім сціх. Кандрат паляжаў яшчэ некалькі хвілін у змярцвелай нерухомасці, а потым пачаў пакрысе сунуцца наперад. У санчасць прыйшоў увесь у ліпкай іржы, напалоханы, як ніколі, і аслабелы. Добра яшчэ, што застаў павозкі на тым месцы, пра якое яму сказалі ў штабе брыгады.

Абмяняўшыся двума словамі з цяжка параненай дачкою, адразу ўзяўся за сваю сумку. Выняў адтуль лістоўкі і даўнія газеты, прастрэленыя ў некалькіх мясцінах. Выняў брашуру Сталіна з партрэтам на ўсю старонку. Яна таксама была прастрэлена. Ладуцька доўга, з дрыготкім адчаем, глядзеў на партрэт, старанна разгладжваў, нібы залечваў кулявую дзірачку ў паперы...

Вара заўважыла бацькава перажыванне і падумала, што гэта праз яе.

— Не хвалюйся ты гэтак, — ласкава сказала яна. — Не пакутуй. Чаго ў жыцці не бывае, ды яшчэ ў вайну? Хутка я папраўлюся і ўсё неяк уладзіцца, усё будзе добра.

Ладуцька моўчкі схаваў брашуру. Крыху супакоіўшыся і заўважыўшы каля крайняй падводы Мішу Глінскага, нібы між іншым, спытаў:

— Гэта і ён тутака быў?

— Хто?

— Ну гэты, Куртэсішын.

— Быў, — спакойна адказала Вара. — Ён ужо другі раз тут.

Ладуцька нічога больш не сказаў, а толькі пасля доўгай і, відаць, пакутлівай паўзы, прызнаўся:

— Мне ж трэба яму атрад перадаць. Вось якая справа...

— А ты сам што? — не надта здзівіўшыся, спытала Вара.

— Сам іду ў радавыя, — з асаблівым націскам прамовіў Ладуцька. — Даслужыўся на трэцім поўным баявым годзе! Даваяваўся! І за што? Хіба я наўмысля гэта зрабіў? Хіба я ведаў?

— Табе не казалі, ад каго былі тыя пасланцы? — ціха заўважыла дачка.

— Каза-алі! — ледзь не з адчаем паўтарыў Ладуцька. — Мала што цяпер могуць сказаць, мала што могуць паказаць?! Роднаму бацьку цяпер не паверыш, а не то што кожнаму сустрэчнаму.

— Я ж табе вось веру, — сказала дзяўчына, спрабуючы перайсці на жартаўлівы тон. — Хоць даўно гаварыла, што камандзір з цябе неважнецкі. Міша лепш будзе камандаваць.

— Ну, ты!.. — злосна ўставіўся Кандрат і нервовымі рухамі паправіў на сабе папругу і разбухлую ад макроцця кабуру. — Сапляка ўсякага ў камандзіры!..

Чакаў, што Вара яшчэ нешта скажа, пэўна ж заступіцца за Мішу, якога Ладуцька ў душы паважаў, толькі часта зайздросціў яму. Пагляд бацькі паступова мякчэў, яму ўжо хацелася нават усміхнуцца трошкі, каб Вара не крыўдавала. Але дзяўчына ўжо не глядзела на яго. Спачатку яна толькі ледзь прыкметна прыплюшчыла вочы і адвяла іх убок, а потым яе павекі зусім апусціліся і на іх выступілі сінія прожылкі.

— Табе млосна, Вара? — занепакоіўся бацька, адчуўшы, што не такую гаворку цяпер трэба было з ёй весці. А можа, і ніякай гаворкі? Мабыць, цяжка ёй цяпер гаварыць, пакутліва, як і варушыцца, расплюшчваць вочы. А ён тут са сваім камандзірствам, ды яшчэ на Мішу Глінскага наваліўся...

Ладуцька глянуў на свой камсастаўскі рамень, на кабуру, падобную на чарапаху, і раптам адчуў непапраўную віну перад дачкой. Няўжо толькі гэтым душа занята? Адна дачка ў яго, зусім адна. Няма больш ні дзяцей, ні братоў, ні сёстраў, ні бацькоў. І хто ведае, што цяпер будзе з гэтай адзінай дачкой? Тут бы кінуць усё, і гэты камсастаўскі рамень, і кабуру, а сесці каля ног роднай дачкі і аставацца да таго часу, пакуль яна не паправіцца. Ночы не спаць, дні каратаць, са свайго рота карміць і паіць, калі спатрэбіцца, але выратаваць дзяўчыну!

— Даруй мне, дачушка, — здавалася, толькі аднымі вуснамі прашаптаў Кандрат. Ён хацеў і яшчэ раз паўтарыць гэтыя словы, гатоў быў перапрошваць дачку доўга і шчыра, хоць не вельмі ясна разумеў, за што.

Дзяўчына павярнула галаву набок і слабенькі, ледзь прыкметны цень ад шырокага альховага ліста лёг на яе бледную пахудзелую шчаку. Гэта быў апошні цень ад дзённага святла, бо пачынала ўжо зусім змяркацца.

Вара ляжала нерухома і маўкліва, а бацька сядзеў на аглабіне, каля адхінутай парусіны, і думаў, як лепш зрабіць: ці пайсці ў атрад цяпер, пакуль яшчэ добра не сцямнела, ці дачакацца месяца.

«А можа астацца тут на ўсю ноч, пасядзець каля дачкі? Хто ведае, калі ўдасца вырвацца зноў пры цяперашніх умовах? Каб жа яна сказала хоць слова...»

І Вара сказала праз некаторы час:

— Калі табе загадана здаць атрад, то ты ідзі і здавай. Не прыкрывайся маёй хваробай. Я ведаю, што там цяпер за гарачыня, — Міша расказваў.

Да ўсходу месяца Ладуцька ўсё ж не пайшоў у атрад і нават не злез з аглабіны, хоць яго мокрая і прабалочаная вопратка пачынала ўжо крыху настываць і пацісквацъ халадком плечы. Перад адыходам прытуліўся вуснамі да халоднай даччынай шчакі, паправіў на хворай коўдру і нейкі стары кажушок на яе нагах.

У адказ на бацькоўскі пацалунак Вара нібы цераз сілу ўсміхнулася, развітальна глянула бацьку ў вочы. Убачыла там многа пакутнасці і палажыла сваю кволую руку на цвёрдыя, як дзеравяшкі, бацькавы пальцы.

— Не хвалюйся за мяне, — са шчырасцю ў голасе яшчэ раз папрасіла яна. — Глядзі там, не забывай

Раман будзе надрукаваны ў часопісе «Полымя».

# Шчаслівай дарогі

У паэзіі з'явілася новае імя — Данута Бічэль. Ёй дваццаць тры гады. Яна нарадзілася паблізу задуменнага велічнага Нёмана ў сялянскай хаце. Калі скончылася вайна, Дануце было ўсяго шэсць год. На досвітку яе будзілі пеўні, босыя ногі дзяўчынкі апякала раса, калі яна ў бары, што падступаў да самай вёскі, збірала чарніцы і грыбы. Яе маленства і ранняе юнацтва — гэта аднаўленне разбураных вайною калгасаў, гэта гул новабудоўляў і паведамленні ў газетах і па радыё пра мінскія аўтамабільны і трактарны заводы, гэта першая баразна на цаліне, першыя цагліны ў падмурак гіганцкіх ГЭС, падкопы падпальшчыкаў новай вайны і палымяныя заклікі да міру...

Данута Бічэль прагна ўбірала ў сябе яркія ўражанні імклівага, перапоўненага вялікімі і малымі справамі нашага жыцця, каб пасля пра ўбачанае і адчутае расказаць у сваёй першай кніжцы вершаў «Дзявочае сэрца».

У яе простых, шчырых і вельмі празрыстых вершах няма дакучлівай дэкларацыйнасці. Тут усё натуральна, шчыра.

У кніжцы ёсць безумоўна і недахопы і пра іх давядзецца гаварыць. Але прыгожы твар не сапсуеш вяснушкамі. Яны з'яўляюцца адзнакаю вясны, а Данута Бічэль яшчэ не ўступіла ў сваю паэтычную сталасць.

Маладая паэтэса не выдумляе складаных метафар і мудрагелістых эпітэтаў. Ёй зусім не патрэбны выкрутасы. Як агню, яна баіцца «прыгожых» слоў.

Сягоння слоў прыгожых не
кажы —
Няма ў жыцці прачулых слоў
такіх.
Вазьмі маю руку, і пабяжым,
І пабяжым удвух, як ручайкі.

У гэтым параўнанні не заўважаеш умоўнасці. Гэтыя ручайкі жывуць, цурчаць і плюскочуцца, размаўляючы адзін з адным, і адлюстроўваюць у сабе бязвоблачнае неба і трапяткое лісце дрэў. Яны надзвычай чыстыя і празрыстыя; кожны адшліфаваны гаманлівай хваляй каменьчык можна разгледзець на дне іх...

— Наіўна! — можа сказаць які-небудзь гурман, што аб'еўся «навейшымі» рыфмамі. Так, Данута Бічэль у вершах бывае наіўная і па-дзіцячаму шчырая. Не ўсялякая шчырасць прыемная, але тут яна выклікана добрымі пачуццямі. Лад думак і пачуццяў паэтэсы блізкі нам. Калі Бічэль піша:

Раней за сонца ўстану рана я.
Такое ранне не прасплю.
Прайдуся росамі, крамяная,

Улюбёная ў сваю зямлю, — мы не можам не падзяляць гэтую любоў да роднай зямлі, і адчуваем пачуццё, блізкае да таго, якое адчуваў аўтар, ствараючы гэтыя няхітрыя, усхваляваныя радкі.

Няхітрыя... Але ж і ў іншых паэтаў часам няма ніякай хітрасці. Уся справа тут у вядомым «ледзь-ледзь», якое і адрозніваае сапраўдны талент ад літаратурнай пасрэднасці. Вось верш:

Ані груш, ані сліў
Мне мой любы не насіў, —
Мне каханы мой дарыў
Усе праталінкі ў бары,
Адгалоскі вясны,
Пах смалістай сасны,
Верасы,
Сітнягі,
Заліўныя берагі,
Ды шаўковыя імхі,
Ды ружовыя шляхі...
Падарыў лясны ручэй,
Усе зоранькі начэй,
Салаўіныя гаі,
Пацалункаў — на дваіх...
І вясёлкі з нябёс
У вачах сваіх прынёс.

Добры верш? Так, але мы ўжо нешта падобнае ў некага сустракалі. Чагосьці ў ім не хапае, у гэтым вершы, нейкай драбніцы, таго самага «ледзь-ледзь». Дык вось вам, калі ласка, два заключныя радкі:

Ды змаўчаў, што прынясе
І маланкі ён усе.

Вось цяпер верш заблішчаў па-новаму! Лепшыя вершы Бічэль заўсёды нечаканыя, як першыя пралескі ў лесе, які яшчэ пахне снегам. Чытаеш верш і не можаш прадбачыць, які будзе яго канец.

Бясспрэчна, запомніцца чытачу верш «Сэрца дзявочае», які даў назву зборніку.

Цэлы дзянёк да працы
дасужая,
Жыта вязала, сена зграбала,
Ногі самлелі, рукі знядужалі,—
А сэрцу, а сэрцу ўсё мала.

У Нёмане змыла стому-
нягодніцу,
З лесу прынесла грыбоў
у прыполе.
Змрок, крадучыся, паўзе
за ваколіцу...
Сэрца сціскаецца:
— Болей!

І пацягнула яно, невыноснае,
Млечнай дарожкай па ночы...
— Час бы дамоў, — збажына
шэпча росная.
Сэрца вяртацца не хоча...

Вёска засне, перапёлка
ўгамоніцца,
На'т вецярок задрамаў
у таполі.
Сэрца! Калі ж ты прагоніш
бяссонніцу?
Сэрца грукоча:
— Ніколі!

Прыведзеныя радкі сведчаць, што Данута Бічэль знаходзіцца на парозе паэтычнай сталасці. Верш напісаны эмацыянальна вобразна і без «архітэктурнай лішніцы».

Сама па сабе блізкасць паэтэсы да прыроды яшчэ ні пра што не гаворыць. Няцяжкая справа, карыстаючыся выказваннем Маякоўскага, «расписать закат или цветенье редьки». Вобразы прыроды нас цікавяць пастолькі, паколькі яны адлюстроўваюць стан душы чалавека. Паэтэса звяртаецца да хмар, да кветак, да птушак, да зор, шырока выкарыстоўваючы старажытны, як сама паэзія, прыём алегорыі. Гэты пастаянны зварот да роднай прыроды дапамагае ёй перадаваць найтанчэйшыя душэўныя рухі. Для прыкладу прывяду кароценькі верш:

Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела...
Светла ў полі, светла на душы...
Лёгкія сняжынкі у цішы...
Спіць сасна ў бахматым
шалашы,
А навокал так бялютка-бела...
Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела.

Чысціня пачуцця, выказанага ў вершы, прымушае нас прыгадаць лепшыя, светлыя хвіліны маленства.

Трэба сказаць, што калі аўтар у сім-тым і грэшны, дык ва ўсякім разе гэта ідзе не ад халоднага разліку. Няўдачы яе здараюцца, відаць, ад нявопытнасці, ад празмерных пачуццяў, якія не знайшлі свайго адзінага і непаўторнага паэтычнага выказвання.

Пра некаторыя, нават не зусім удалыя, вершы Данугы Бічэль можна з упэўненасцю сказаць, што яны выліліся са шчырага сэрца.

Хіба бульба ў Беларусі
Вырадзіцца ўся,
А ў калёсы замест коней
Запрагуць гуся...
Хіба выспеюць узімку
Вішні на вярбе...

І тады кахаць я буду,
Добранькі, цябе.

Магчыма, калі Данута Бічэль пасталее, набярэцца жыццёвага і літаратурнага вопыту, яна ўжо так не напіша пра каханне. Магчыма, вершы яе стануць «разумнейшымі», страцяць сваю амаль дзіцячую наіўнасць. Магчыма... Але мы не будзем ёй жадаць гэтага! Разважлівых вершаў у нас хоць адбаўляй, паэтаў, якія валодаюць так званай «тэхнікай», таксама колькі хочаш. Няхай і праз дзесяць і праз дваццаць год Данута Бічэль будзе трошкі дзіцем. Бо ўсе сапраўдныя паэты падобныя на дзяцей, хоць бы ўжо тым, што свет адкрываецца іх здзіўленым вачам нібы ўпершыню.

Нарэшце, хочацца сказаць, што светапогляд паэта павінен быць, вядома, шырэйшы, чым мы гэта бачым у вершах Дануты Бічэль. Паэтэса пераступіла парог бацькоўскага дома, але за ваколіцу роднай вёскі выйсці ўсё ж не адважваецца. На самай справе, паспрабуй, здагадайся, у якія гады якога стагоддзя напісаны некаторыя вершы, ну хоць бы такія, як «Ёлачкі», «Бяроза», «Цялушка»...

Кожны добры паэт — пясняр свайго часу. Ёсць паэты, якія, каб здавацца сучаснымі, напаўняюць свае вершы такімі словамі, як «спадарожнік», «луннік», «сямігодка», «атам», «рэактар» і г. д. Знаходзяцца таксама крытыкі, якія па гэтых таблічках з абазначэннем сучасных паняццяў мяркуюць пра сучаснасць паэта. Таблічак больш — сучасны, таблічак менш — топчацца ва ўчарашнім дні. Але ж таблічкі можна здымаць і замяняць іншымі, яшчэ больш «сучаснымі».

Сучаснасць у вершах — гэта ўвесь лад думак і пачуццяў паэта. Сучаснасцю трэба жыць. Для гэтага неабходна паэту ўдзельнічаць у жыцці. Данута Бічэль стаіць на правільным шляху. Яна піша, вучыцца ў педагагічным інстытуце і хутка стане настаўніцай. Мы пажадаем ёй больш глыбокага пранікнення ў жыццё і вялікай, нястомнай працы над паэтычным словам.

Уладзімір ВАРНО.

# ТАЛЕНТ ЗАДУШЭЎНЫ, ШЧЫРЫ

У артыкулах пра Змітрака Бядулю звычайна падкрэсліваюць, што ён зрабіў уклад у гісторыю беларускай літаратуры. Пры ўсім гэтым лепшае ў яго творчасці вельмі далёкае ад таго, каб адыйсці ў гісторыю, яно неаддзельнае ад сённяшніх нашых роздумаў, сённяшніх інтарэсаў. І таму Бядуля — наш сучаснік, якога мы бяром з сабой у дарогу да цудоўнай будучыні, пра якую гаварыў ён палымяна:

Працоўны люд у пух
пратворыць глебу
Імпэтам сіл спрунжынавых
канёў;
Акрыліць край і заваюе неба
Шматкрыльны ўзлёт сталёвых
жураўлёў.

Першае ўражанне ад ягоных кніг — адчуванне надзвычайнай жыццёвасці, праўдзівасці створаных ім вобразаў. Уражвае яго ўменне бачыць, чуць, яго веданне людзей, яго трапнае апісанне разнастайных праяў жыцця.

Аднойчы прачытаўшы творы Бядулі, нельга не пакінуць яго назаўсёды сваім спадарожнікам. Яшчэ многія пакаленні будуць вучыцца па яго творчасці ненавідзець стары свет прыгону і паншчыны, змецены на нашай радзіме Вялікім Кастрычнікам, любіць новае, усё тое, што прынесла з сабой рэвалюцыя.

Кожны па-свойму адкрывае для сябе Бядулю, і першае знаёмства з ім застаецца ў памяці на ўсё жыццё.

...Акупіраваны фашыстамі Мінск. 1942 год. Даваенная школьная чытанка. Апавяданне «Пяць лыжак заціркі». Яшчэ год назад, пакуль не пачалася вайна, яно магло б здацца творам пра далёкае-далёкае мінулае, якое памятаюць хіба толькі бацькі. У разбураным жа і разрабаваным ворагамі Мінску яно ўспрымалася як сама рэчаіснасць...

Праз дваццаць без малога год пасля таго я ізноў гартаю гэтыя старонкі — «Пяць лыжак заціркі». І памяць ажыўляе незабыўнае ўражанне: як гэта можна так цікава і так трапна, што аж за сэрца хапае, расказаць пра самае звычайнае. У апавяданні пра беднае снеданне сям'і, якая церпіць нястачы, уразіла шчырасць аўтара, чалавека, у якога такое сэрца, які так усё разумее, які такі спагадлівы і мудры. Імя Бядулі асацыіравалася тады з бядой, з тым, што чалавек гэты многа перажыў, перш чым пачаў настолькі проста, мудра, цудоўна размаўляць з людзьмі са старонак кнігі. Пазней прыйшлося даведацца, што гэта сапраўды так, што псеўданім Змітрок Бядуля ўзяў сабе Самуіл Плаўнік услед за Максімам Горкім і Дзям'янам Бедным.

У раёне Мінска за вакзалам на адной са старых вулачак захаваўся звычайны драўляны, аднапавярховы, адсунуты ў глыбіню двара домік. Трапляеш да яго — і ўспамінаецца з прачытанага, што іменна тут у далёкія вечары таго года, які папярэднічаў адзначанаму Вялікім Кастрычнікам, у позція вечары выходзіў на ганак Змітрок Бядуля пакурыць, каб не дыміць у пакоі, дзе адпачываў або пісаў хворы Максім Багдановіч. Пазіраючы на маленькі аснежаны садок, думаў пра свайго сябра. А часам удвух з Багдановічам пазіралі на зімовыя зоры.

Пра гэтыя вечары, пра дружбу з аўтарам «Зоркі Венеры» ён пакінуў незабыўныя старонкі апавяданняў пад агульнай назвай «Страцім-лебедзь...» Тут і жывое сведчанне пра тое, як пісаў Багдановіч, і пра тое, як цяжка даводзілася працаваць і самому Бядулю да рэвалюцыі.

Дружба і сустрэчы гэтых двух людзей знамянальныя ў гісторыі беларускай літаратуры. Цяга іх адзін да аднаго тлумачылася і агульнымі творчымі інтарэсамі, і прадчуваннем, вострым жаданнем змен у дарэвалюцыйнай рэчаіснасці.

Пра Бядулю яго пабрацім у жыцці і творчасці Максім Багдановіч гаварыў, што гэта «пісьменнік з душой чулай і паэтычнай». Бядуля быў чалавек вялікага сэрца і шырокага кругагляду, рознабаковых творчых інтарэсаў і палымянай душы. Іменна таму яму ўдалося ў сваіх творах адлюстраваць душэўны свет людзей розных эпох, пачынаючы ад прыгоннага Сымона, які не захацеў быць панскім салаўём, і да людзей новага свету, народжанага сацыялістычнай рэвалюцыяй.

Яму было б цяпер 75 год.

Тры чвэрці стагоддзя аддзяляюць нас ад першых крокаў яго ў беднай хаце возчыка, вартаўніка, служачага на лясных промыслах з мястэчка Пасадзец. Сяляне, лесарубы, рамеснікі — ад іх Бядуля пачуў тое жывое слова, якое на ўсё жыццё запала яму ў сэрца. І таму пазней ён называў беларускую народную творчасць чароўным люстрам сялянскага жыцця. Ён сам як пісьменнік часта карыстаўся гэтым люстрам, і іменна таму столькі праўдзівых мастацкіх дэталей і вобразаў ва ўсёй яго творчасці — ці напісаны яны пра далёкае мінулае, ці пра шчаслівую долю беларуса, калі «ясны розум рабочых і сялян і магутная сіла чырвонаармейскіх штыхоў вызвалілі працоўны люд».

Улюбёны ў беларускую паэзію, Змітрок Бядуля прысвяціў ёй спецыяльныя даследаванні, выкарыстоўваў многія яе матывы ў сваіх вершах і паэмах. Ён параўноўвае яе са слуцкімі паясамі, шматколернымі дыванамі, сатканымі беларускімі сялянкамі. Яна для яго нібы жывая істота, настолькі ён чулы да яе і пільна ўважлівы. У беларускіх казках падкрэслівае ён пластычнасць, гарманічнасць, мастацкасць.

Адтуль і ў яго творчасць прыйшлі гэтыя якасці. Перафразіруючы Бядулевы словы пра казкі, можна сказаць пра ягоныя творы, прысвечаныя дарэвалюцыйнаму мінуламу, што ў іх, нягледзячы на гумар, у кожным слове падкрэслены жахі паншчыны, прыгону. І з тым большай сілай гучаць творы яго пра шчаслівае жыццё Савецкай Беларусі.

Літаратурнымі настаўнікамі Бядулі былі Горкі, Чэхаў, Купала, Колас. Таму вельмі лёгка зразумець значэнне і сэнс такіх матываў дарэвалюцыйнай яго творчасці, выказаных у словах: «На горне душы першы верш я каваў, мне молатам гора служыла» (1909), «О, калі настане ранне для ўсёй краіны?..» (1911), «Ты пана бі і вырві волю!» (1914), «Песня волі заве па гарах і далінах...» (1917).

Першы твор Бядулі на беларускай мове апублікаваны ў «Нашай ніве» паўстагоддзя назад (23 верасня 1910 г.). З таго часу напісанае Бядулем разыйшлося па свеце ў шматлікіх выданнях на беларускай, рускай, украінскай, польскай і іншых мовах. Кнігі вершаў, паэм, апавяданні, творы буйных жанраў прозы, казкі, п'есы, артыкулы. Неаднаразова выдаваліся выбраныя творы.

Дарэвалюцыйныя творы Бядулі — паказ трагічнай долі беларускага сялянства, запрыгоненага панамі, паказ лёсу талентаў з народа. І пасля Кастрычніка ён вяртаецца да гэтых тэм у такім класічным творы беларускай літаратуры, як аповесць «Салавей».

Вялікі Кастрычнік, першыя гады сацыялістычнага будаўніцтва, уплыў рускай савецкай літаратуры дапамаглі пісьменніку вырасці ідэйна. У яго творчасці з'яўляецца вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, пра якога Бядуля пісаў, што «ён сам — паэма з паэм»; у пісьменніка нараджаецца тэма дружбы народаў нашай краіны.

Ва ўсеўзбраенні пісьменніцкага майстэрства адлюстроўвае ён савецкую рэчаіснасць у сваёй прозе — стварае запамінальныя характары савецкіх людзей: партызан і чырвонаармейцаў, першых беларускіх калгаснікаў і рабочых.

У савецкі час напісаны ім вялікі эпічны твор «Язэп Крушынскі» —прыкметная старонка ў гісторыі беларускага рамана.

Сам многа пішучы, Бядуля пільна сачыў за творчасцю старэйшых і маладзейшых беларускіх пісьменнікаў, актыўна ўдзельнічаў у крытыцы, выступаў з палымянай публіцыстыкай.

Ён быў і гісторыкам беларускага тэатра, і даследчыкам фальклору. Яму імпанавала народная творчасць многіх нацыянальнасцей нашай краіны. Думаецца, аналіз Бядулі армянскага эпасу «Давід Сасунскі» і да сённяшняга часу не страціў свайго значэння.

І сёння надзённыя заўвагі Бядулі пра сцэнічнасць народных казак: «Калі б такія дыялогі гучалі з нашай сцэны, яны ніколі не надакучылі б публіцы». І сапраўды, лепшыя ўзоры нашай драматургіі (ад купалаўскай «Паўлінкі» праз драматургію К. Крапівы да п'ес Макаёнка і Козела) грунтуюцца на народнай творчасці ў пабудове дыялогу, і ў разгортванні фабулы, і ў абмалёўцы характараў.

Апроч усяго іншага, Бядуля — адзін з першых пачынальнікаў распрацоўкі гістарычнага жанра ў беларускай літаратуры, цудоўны дзіцячы пісьменнік.

Як кожны вялікі пісьменнік, Бядуля шмат думаў і пісаў пра нашу будучыню. І таму сёння Бядулевы кнігі чытаюцца тымі, да каго ён звяртаўся:

Вы седзіцё начамі над строга-
мудрым Марксам,
А вочы маладыя — гарачыя
вуглі.
Палётам дум юнацкіх узносіліся
к Марсу,
А працай — ў глыб зямлі...

Уладзімір БОЙКА.

# На радзіме Змітрака Бядулі

Плешчаніцкі раён яшчэ зусім нядаўна называлі партызанскім краем. Яго дрымучыя лясы ў часы апошняй вайны давалі прытулак народным мсціўцам. Адгэтуль мужныя савецкія людзі адпраўляліся на разгром варожых гарнізонаў, на ўзрыў мастоў, шасэйных дарог і чыгунак. Яны ішлі на подзвігі ў імя міру і справядлівасці на зямлі.

— Гераічны, працавіты тут народ, — расказвае старшыня калгаса імя Энгельса Віктар Іванавіч Сасноўскі. — Вярнуліся пасля вайны дахаты на адны папялішчы ды руіны. Фашысты спалілі вёскі нашай арцелі Любша і Боркі разам з людзьмі. Толькі двум чалавекам цудам удалося вырвацца з гэтага вогненнага пекла і застацца ў жывых. Спалена было і мястэчка Пасадзец. Давялося ўсё адбудоўваць занава.

Ля будынка Пасадзецкай школы ў мінулую суботу сабраліся калгаснікі, вучні, сельская інтэлігенцыя, прыйшлі людзі і з далёкіх вёсак, прыехалі госці з Плешчаніц і Мінска на ўрачыстасці, звязаныя з 75-годдзем з дня нараджэння Змітрака Бядулі. Прыехалі сюды родная сястра пісьменніка Рэгіна Яфімаўна Ласко, яго жонка Марыя Ісакаўна і сын Яфім Самуілавіч Плаўнікі.

Госці перадаюць вучням для школьнай бібліятэкі каля 200 кніг.

Народны мастак рэспублікі Заір Азгур звяртаецца да прысутных.

— Я захапляўся і захапляюся творчасцю вашага земляка, цудоўнага майстра мастацкага слова. Гэта натхніла мяне ўвасобіць вобраз Змітрака Бядулі ў скульптурнай рабоце, якую я вам сягоння дару ад шчырага сэрца.

Бюст пісьменніка ставяць на стол, засланы чырвоным палотнішчам. Піянеры з любоўю адзяваюць на яго вянок з палявых і лясных кветак.

Пачынаецца мітынг, прысвечаны адкрыццю на будынку школы мемарыяльнай дошкі.

Мітынг адкрывае сакратар Плешчаніцкага РК КПБ А. Шлыкаў.

Ад імя Саюза пісьменнікаў Беларусі выступае Васіль Вітка. Ён расказвае аб тым пачэсным месцы ў савецкай літаратуры, якое займаюць творы Змітрака Бядулі.

Аб сваіх сустрэчах і творчай дружбе з пісьменнікам гаварыў паэт Мікола Хведаровіч.

Галоўны рэдактар Беларускага дзяржаўнага выдавецтва крытык Янка Казека гаворыць аб выданні і папулярнасці кніг Бядулі ў нашай краіне і за мяжою.

Сярод прысутных знайшліся і тыя, хто добра ведаў Змітрака Бядулю з дзіцячых і юнацкіх год. З суседняй вёскі Крынічын прыйшоў на мітынг дзед Станіслаў Казіміравіч Герка. Ён падзяліўся ўспамінамі аб сваім сяброўстве са Змітраком Бядулем у юнацкія гады, расказаў пра яго першыя творчыя крокі.

Затым вучні мясцовай школы выступілі з канцэртам. У яго праграме былі шматлікія творы Змітрака Бядулі.

Пасля канцэрта доўга не разыходзіліся калгаснікі. Яны гаварылі аб героях твораў Змітрака Бядулі, слухалі расказы старэйшых пра свайго слаўнага земляка. У гутарцы з літаратуразнаўцам і крытыкам Сцяпанам Александровічам, які прыехаў у Пасадзец, каб сабраць новыя матэрыялы аб жыцці і дзейнасці пісьменніка, пажылая калгасніца Паліна Аляксееўна Сухадолец заўважыла:

— А як праўдзіва ўсё напісана пра дарэвалюцыйны наш Пасадзец у аповесці «У дрымучых лясах». Вельмі шкада, што Змітрок Бядуля не дажыў да нашых дзён. Ён бы напісаў і пра наша сённяшняе жыццё, напісаў бы і пра тое, як мы ў партызанах ваявалі і як гаспадарку сваю падымалі.

**На здымку:** выступае на мітынгу пісьменнік Васіль **Вітка.** Уверсе—мемарыяльная дошка на будынку Пасадзецкай школы.

Тэкст і фота **А. Махнача.**

---

пра сябе, асцерагайся, дзе можна. Загінуць тут не цяжка, а каму трэба гэта? Не злуй на Мішу. Ён жа не вінаваты, што яму загадалі камандаваць.

«...Не злуй на Мішу...» Гэтыя словы доўга стаялі ў памяці. Ладуцька паціху ішоў і нейкі час думаў толькі пра іх. Амаль пры кожным слове дачка ўспамінала Глінскага. Ёй цяжка было варушыцца, нават паварочваць галаву, але ўсё ж некалькі разоў спрабавала паглядзець у той бок, куды пайшоў гэты хлопец, — мабыць, ён абяцаў яшчэ вярнуцца. І, можа, нават недавольна была, што бацька сядзеў на аглабіне, не даваў Мішу падысці. А якія вочы былі ў хлапца, калі ён паказаўся тут апошні раз, відаць, перад адыходам? Можна было падумаць, што чалавек вось-вось заплача або закрычыць на ўвесь лес ад гора і адчаю.

Ладуцьку цяжка было зразумець такія пачуцці. Сам ён ніколі нічога гэткага не перажываў, а калі здаралася, што чуў ад каго пра вельмі ўжо гарачае каханне, то салодзенька ўхмыляўся, а ў душы не верыў. Ажаніўся ён некалі выпадкова, без ніякага кахання і нават без ухажорстваў. Палез неяк жартам у пограб, каб памагчы дзеўцы выцягнуць адтуль кашы з бульбай. Палез халасцяком, а вылез жанатым.

Праз некалькі год жонка памерла. Падгадаваўшы Вару, Кандрат спрабаваў трохі паглядваць на прыгожых жанчын. Быў нават такі шчаслівы час, што адчулася, быццам падабаецца адна доктарка з мясцовай бальніцы. Там у калідоры вісеў тэлефон. Пазвоніць, бывала, Кандрат у бальніцу і дрыжыць, седзячы ў сельсавеце, баіцца, каб хто не зайшоў у гэтыя хвіліны да яго ды не перашкодзіў. Чакае доўга, пакуль падыдзе доктарка, бо там не спяшаюцца яе зваць, а то і сама яна не надта рвецца хапаць трубку. Калі нарэшце загучыць вясёлы, крыху гарэзлівы голас, Кандрат нейкі час маўчыць, толькі ўсхвалявана дыша ў трубку. Потым апалым голасам вітаецца і паведамляе, гледзячы ў акно, што надвор'е сёння цёплае і зверху нічога не падае, што калі будзе так і адвячоркам, то...

— То што? — яшчэ весялей і нібы нават з радасцю перапытвае жанчына.

— То можна было б крыху і прагуляцца, — удакладняе Ладуцька.

— Дык дзіва што можна! — ахвотна падхоплівае жанчына. — Цэлы дзень сядзіш вось сярод гэтых пластыраў ды спрынцовак... Але ж ведаеце, якая бяда ў мяне? Насмарк! Такі насмарк напаў!..

Ладуцьку пачынае ўяўляцца чырвоны, распухлы нос, і ён хутка вешае трубку. Праз некалькі дзён зноў звоніць і чуе ўжо, што ў доктаркі баляць зубы. У наступны раз яна з усёй сваёй медыцынскай адкрытасцю паведамляе, што яшчэ зранку ходзіць з грэлкай, бо вельмі ж разбалеўся жывот.

І гэтак цягнулася доўга, аж да таго часу, пакуль надаедлівыя ўяўленні аб распухлым носе, завязанай шчацэ і грэлцы не выціснулі добрыя пачуцці. Больш ужо нікому з жанок ён не званіў, нікога не ўпрошваў пабыць з ім у кампаніі, а, добра выпіўшы, смела наведваўся туды, адкуль не надта праганялі. Так ён натрапіўся на Аўдоцьку, пасля таго, як яе мужа забралі ў армію. Заглядваў да яе нават з партызанаў, і цяпер часам успамінаў, хоць і злаваўся, што яна пачала блытацца з немцамі ды паліцаямі.

Чысты, поўнікавы месяц яшчэ нядаўна свяціў Ладуцьку ў спіну. Свяціў ярка, настойліва, нібы ўпіраўся халоднымі праменнямі ў патыліцу, у шырокія перацягнутыя рамнямі плечы. А цяпер месяц усё намагаўся зайсці збоку і свяціць у левую шчаку. Ладуцька, не спадзеючыся на свой компас, старанна браўся ўправа, каб гэтае начное свяціла зноў апынулася ззаду, але непаслухмяны поўнік, быццам наўмысля, плыў побач і ўсё заглядваў у твар праз левую шчаку. Кандрат прыпыніўся, каб больш дакладна вызначыць напрамак, і ў гэты час яму здалося, што нехта паблізу кашлянуў.

— Хто там? — бадай міжвольна спытаў Ладуцька, а сам прытуліўся да камля тоўстай хваіны.

Адказу ніякага не было, а праз дзве-тры хвіліны зноў пачуўся кашаль, хваравіты, неадольны, але здаўлены з апошняй сілы. І Ладуцьку ўжо больш пэўна пачулася, што чалавек недзе над ім, можа, нават на той хваіне, пад якой атрымаўся гэты вымушаны прыпынак. Пасля яшчэ аднаго вокліку чалавек на дрэве абазваўся і сказаў, што ён як ёсць свой.

— Кідай аўтамат ці што там у цябе! — скамандаваў Ладуцька. — А тады злазь сам!

Чалавек скінуў толькі штык ад вінтоўкі і пачаў паціху скарабкацца. Сядзеў ён не на той хваіне, пад якой стаяў Ладуцька, а на суседняй. Злезшы, ледзь не паваліўся на зямлю, а потым неяк дзіўна замахаў рукамі.

— Чаго ты? — без асаблівай падазронасці спытаў Ладуцька, убачыўшы перад сабою нізкарослага, нездараўчанага з выгляду хлапчука без ніякай агнястрэльнай зброі.

— Рукі зацяклі, — ледзь не плачучы, паскардзіўся хлапец. — І ног амаль не чую. Каб яшчэ трохі, то зваліўся б з дрэва, як падстрэленая варона.

— А чаго цябе занесла на хваіну? — пацікавіўся Ладуцька. — Ты што, шпіён гэтакі?

— Ды які я шпіён? — здзівіўся хлапец. — Загадалі вось сядзець, і сяджу. Я сяджу, а яны пайшлі. З учарашняга дня сяджу.

— Відаць, забыліся.

— А чаго ж ты?.. Хто яны такія, гэтыя свалачугі і нягоднікі, лайдакі і прайдзісветы? Як гэта можна забыць на дзераве чалавека?

— Яны, можа, і не забылі, — пачаў ужо апраўдвацца хлапчук, крыху азадачаны несусветнай лаянкай. — Яны, можа, яшчэ і прыйдуць.

— А табе здыхаць на хваіне, пакуль прыйдуць?! — абураўся Ладуцька. — Як жа так можна?

— Загад ёсць загад, — паўтарыў хлапец, відаць, недзе пачутыя словы. — А ў нас яшчэ такі камандзір атрада...

— Хто ён такі, што? Гэты самы «Вася»?

— Ды я добра не ведаю, як яго завуць, — разгублена прамовіў хлапец, — але, здаецца, што не Вася. Я зусім нядаўна прыйшоў у атрад, усяго толькі чатыры дні таму назад. А да гэтага мы ўсёй сям'ёй у лесе жылі.

— Ну, пайшлі! — не надта сурова загадаў Ладуцька. — Будзеш цяпер у маім... у нашым атрадзе.

Спачатку ён хацеў абшукаць небараку, нават завязаць яму рукі. А потым, як угледзеўся ў яго пакутлівы, яшчэ амаль дзіцячы твар, дык чамусьці стала сорамна за такі намер. Сказаў толькі, паклаўшы руку на вытырклы з-пад вузкай дамашняй світачкі плячук:

— Не паложана не знаць свайго камандзіра. Як жа гэта? Ты, мабыць, і атрада свайго не ведаеш?

— Атрад ведаю! — рашуча запратэставаў хлопец. — Як жа не ведаць? І роту сваю ведаю, і ўзвод.

— Ну дык з якога ж ты атрада, забыты назіральнік?

Хлопец прымоўк у развазе, а потым смела заявіў:

— Пра гэта не паложана гаварыць!

— Вось які ты! — услых здзівіўся Ладуцька. — Дык, мабыць, ты і камандзіра па прозвішчу ведаеш, толькі маўчыш, хаваешся ад мяне. Я, канешне, мог бы прымусіць цябе ўсё расказаць, але...

— Як гэта прымусіць? — са шчырым здзіўленнем запытаўся хлопец.—Тут мяне ніхто не прымусіць, нікому я не папушчуся.

— А гэ-эта? — мнагазначна прамовіў Ладуцька і паказаў на сваю разбухлую кабуру.

— І гэтага не пабаюся, — спакойна заявіў хлопец. — Чаго не паложана, не скажу і не зраблю. Немцы мяне яшчэ не так палохалі.

— Дык я ж не немец, — ціха агрызнуўся Ладуцька і больш не турбаваў хлапчука распыткамі. Толькі недзе ўжо ў добрай палавіне дарогі заўважыў, нібы між іншым:

— Кажаш, занадта суровы твой камандзір. Дык гэта дрэнна, калі так. Камандзір павінен быць...

— Вельмі суровы, — падхапіў хлопец, нават не даслухаўшы. — Усе гавораць, што недаверак нейкі і ўсяго ўсякага баіцца. Нядаўна два чалавекі загінулі па яго віне.

...Аж да самага світання блукаў па лесе Кандрат, і ўвесь гэты час не абазваўся словам да свайго кволага спадарожніка. Зноў і зноў успаміналіся яму тыя два чалавекі і амаль усю дарогу стаялі перад вачыма. То раптам з-за кустоў вынырвалі такія твары, якіх ён ніколі не бачыў, то чуліся такія галасы, якіх ён ніколі не чуў.

Яго атрада ўжо не было на ранейшым месцы, за ноч усё тут перамянілася.

— Куды яны пайшлі? — спытаў нарэшце Кандрат. Голас яго быў хрыпучы, злосны.

— Хто, яны? — не адразу зразумеў хлопец. — Тыя, што мяне пакінулі?

— Няўжо ж хто!

— Дык хіба гэта вашы, таварыш камандзір?

— А то ж чые?! Ды не камандзір я ўжо цяпер! Разумееш? Радавы баец, гэтакі, як і ты. Амаль тры гады быў камандзірам! Разумееш? А цяпер няхай іншыя пакамандуюць, малодшыя. Можа і праўда, што я не той, што трэба, камандзір. Мне дачка не раз пра гэта гаварыла. З тымі двума, што ты гаварыў, мая віна. Ды вось і цябе на дзераве пакінуў, як чучала якое, а не жывога чалавека.

— Дык гэта ж не вы! Там у нас невялікая група была.

— Гэта я загадаў падняць усюды назіральнікаў. Я павінен быў і праверыць, ці адпусцілі іх. Можа і яшчэ хто сядзіць, качанее на дзераве, як ты каланеў. Нічога я не праверыў, а цяпер вось можа зусім згубіў атрад. Куды нам цяпер, га?

Пакуль хлопец думаў, што адказаць, уперадзе застукала адразу некалькі кулямётаў.

— Туды нам, — упэўнена паказаў ён рукой. — Вунь туды!

Ладуцька з усёй сілы паімчаўся на дапамогу партызанскай заставе, якая ўступіла ў бой.

---

Грамадскасць рэспублікі адзначае 75-годдзе з дня нараджэння Змітрака Бядулі.

У сувязі з гэтым цікава нагадаць імя В. А. Сосенскага, сябра Бядулі па юнацкіх гадах. Кравец па прафесіі, ён да рэвалюцыі жыў у м. Даўгінава. В. Сосенскі першы пазнаёміў Бядулю з газетай «Наша Ніва» і пазней дапамог яму звязацца з ёю. Першыя вершы на беларускай мове малады пісьменнік паслаў у рэдакцыю «Нашай нівы» пры пасрэдніцтве свайго сябра. У Бядулі ёсць некалькі апрацовак беларускіх казак, пачутых ад В. Сосенскага.

Цяпер В. Сосенскі жыве на станцыі Ікшкіле Латвійскай ССР. Ён піша ўспаміны пра свайго слаўнага сябра. Частку сваёй працы ён даслаў у Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

Друкуем з гэтых успамінаў урыўкі пра першыя сустрэчы В. Сосенскага са Змітраком Бядулем.

# Першыя сустрэчы

З УСПАМІНАЎ

Рэвалюцыя 1905 года паспрыяла нараджэнню ў мяне моцнай ахвоты распаўсюджваць сярод насельніцтва нелегальную літаратуру. Я сам, можа, не столькі многа чытаў, колькі мне хацелася, каб людзі чыталі.

Улетку ў вёску нашу прыязджалі студэнты. Ад іх даведваўся я пра навіны руху працоўных у гарадах.

Цікавасць да друкаванага слова прывяла мяне да ўдзелу ў газеце «Наша ніва». Я дасылаў туды карэспандэнцыі.

Аднойчы, паказаўшы сваёй знаёмай гімназістцы Мэры Гардон, з якой калісь мы распаўсюджвалі разам літаратуру, нумар газеты з маім допісам, я даведаўся ад яе, што яна ведае ў нашых мясцінах аднаго хлопца, які піша пекныя вершы. Мэры паабяцала пазнаёміць мяне з гэтым хлопцам:

— Ён да цябе прыйдзе з вялікай ахвотай. Пазнаеш, што за малец, гэты Плаўнік.

Так улетку 1907 года я ўпершыню пачуў пра Бядулю.

Пасля размовы з Мэры прайшло, мусіць, тыдняў пяць—шэсць, пакуль удалося нам сустрэцца.

...За акном — цудоўнае надвор'е. Але цешыцца ім часу няма. Мой лёс — кравецкі. Шыю і пяю. Мае браты пяюць. Бацька пяе. Голас мой зычней ад усіх чуваць. На вуліцы людзі сабраліся — слухаюць наш «канцэрт».

Раптам дзверы адчыніліся. Плаўнік заходзіць. Пад пахай у яго скрутак, абцягнуты паперай, абвязаны жоўтым шнурком. Услед за ім — ягоны бацька. Прыйшлі, каб хлопцу нешта пашыць.

Пакуль бацькі нашы дамаўляліся пра шыццё, мы з маладым Плаўнікам сваю гутарку завялі. Я расказаў яму пра газету, куды пасылаю допісы, пра тое, што Мэры яго хваліла.

Плаўнік нясмела, ціхенька, працяжна гаворыць. Ён такі далікатны, міргае вачыма, нібы некага баіцца. І так нясмела паводзіць сябе.

— Ты мне твае газеты можаш паказаць? — пытаецца. — Мэры надта хваліла іх.

Я хутка кінуў сваё шыццё, пачаў газеты паказваць. Некалькі нумароў «Нашай нівы» адразу яму ахвяраваў.

Плаўнік шчыра падзякаваў.

Тым часам бацькі нашы дамовіліся між сабой, знялі з Плаўніка мерку на гарнітурчык. Мы развіталіся, дамовіўшыся яшчэ сустрэцца.

Трохі пазней я шмат даведаўся пра яго. Вучыўся ён настойліва, быў бедны, хадзіў босы, сам сабе латаў кашулю.

Сярод сяброў Плаўніка былі гімназістка Мэры Гардон і настаўнік Рагажынскі. Мэры любіла чытаць, шмат вучылася. Рагажынскі выкладаў рускую і яўрэйскую мовы. Погляды меў прагрэсіўныя. Іменна Рагажынскі адкрыў у маладога Плаўніка паэтычны талент і ўсяляк заахвочваў яго да творчасці.

Неўзабаве адбылася і наша другая сустрэча. Плаўнік зайшоў да мяне.

— Веды трэба папаўняць, — кажа. — Дай яшчэ што пачытаць.

Ён кінуў позірк на мае кнігі, што ляжалі на паліцы.

Мы тут жа пачалі горача размаўляць пра іх.

Плаўнік стаў чытаць уголас. Чытае, чытае і захапляецца кожным словам. Пасля я чытаю яму вершы Купалы, Коласа, Цёткі. Ён з вялікай асалодай слухае. Пасля робіць заўвагі. У кожным слове знаходзіць глыбокі сэнс і чароўнасць.

Мне расказвалі, што дома Плаўнік па начах позна чытае кнігі і газеты. Многа па вёсках ходзіць, да розных гутарак, да песень прыслухоўваецца, нешта запісвае алоўкам.

Ад Даўгінава да Пасадца дарога — каля трыццаці вёрст. Малады Плаўнік не ленаваўся, не менш як раз на тыдзень прыходзіў да мяне кнігі памяняць, свежую газету ўзяць.

Некаторыя кнігі ён разы па тры-чатыры ўзапар перачытваў,— тыя, што былі з грыфам «Загляне сонца і ў наша аконца». Мы з ім так зжыліся, здружыліся, што адзін без аднаго жыць не маглі.

**В. СОСЕНСКІ.**

# ЧАЛАВЕК ЗАСТАЕЦЦА Ў СТРАІ

Світанне нараджаецца ў свінцова-халоднай вадзе восеньскай Бярозы. Святлее з кожнай хвілінай, і ўжо ярка відны абрысы прадметаў, зараснікі лазы на беразе ракі і сілуэты будынкаў. Неўзабаве і першы промень запозненага восеньскага сонца асвятляе гарадок, зазірае ў вокны дамоў.

Нараджаецца новы дзень, чуюцца першыя гукі жыцця. У пакоі дома па Камсамольскай вуліцы нерухома ляжыць на ложку чалавек з прывабным, але пакутліва задуменным і бледным тварам. Вочы яго расплюшчаны, ён не спіць і прагна ловіць гукі за акном, нібыта зараз павінен пачуць нешта надзвычай важнае і значнае...

Ідуць на работу людзі. А ён ужо больш не пойдзе...

У горле застрае жорсткі, сухі камяк і цяжка, нехаця тае. Гэта мінутная слабасць, яна пройдзе. Чалавек бярэ з-пад падушкі кнігу і шукае патрэбную старонку. Потым доўга чытае, і кніга злёгку дрыжыць у нямоцных руках... На вокладцы малюнак: чалавек у камбінезоне паўзе па снезе, пільна ўглядаючыся наперад. Надпіс на кнізе: «Аповесць аб сапраўдным чалавеку»...

Ён загортвае кнігу і ціхенька кладзе побач. Доўга ляжыць моўчкі з расплюшчанымі вачыма і думае, напружана думае аб чымсьці.

Прыгадваецца Усеваладу Мігаю іншая восень, іншае лета — сорак першага года. Ён скончыў шэсць класаў і думаў канчаць сямігодку. Не давялося. Дваццаць трэцяга чэрвеня самалёты з чорнымі крыжамі на крылах скінулі на Парычы першыя бомбы.

Праз колькі дзён адыходзіў на фронт бацька, моцна, як даросламу, цісну́ў на развітанне руку.

— Ты ў мяне сапраўдны мужчына, сынок, — гаварыў бацька.— Маці ў нас няма, дык лепш паехаць табе да сваякоў, так я лічу. А галоўнае — быць чалавекам трэба. Усюды і заўсёды—нашым, савецкім чалавекам.

Хто ведаў тады, што гэтая іх першая мужчынская размова была і апошняй?

Ён і сапраўды паехаў за Бярозу-раку, у дальнюю вёску — да нейкіх родзічаў. Усяляк хаваўся ад немцаў — маглі адправіць на работу ў Нямеччыну. А калі ў сорак трэцім наблізіўся да родных мясцін фронт, ля Шацілак удалося перабегчы да сваіх.

У палявым ваенкамаце чалавек з сухімі ад бяссонніцы вачыма недаверліва спытаў:

— З якога?.. Колькі год, пытаюся.

— Дзевятнаццаты... З дваццаць пятага, — хутка адказаў прызыўнік і непрыкметна прыўзняўся на насках, каб здацца вышэйшым. У сапраўднасці ж яму ледзь «стукнула» семнаццаць.

Капітан яшчэ раз акінуў позіркам постаць рослага, хаця і вельмі худога хлопца.

— Годны... У дзеючую...

Ваяваць давялося зусім блізка ад дому, ды дома пабыць давялося няхутка. Фронт праходзіў пад самымі Парычамі, то заміраў, то ажываў ураганным агнём перастрэлкі. Шацілкі — у нашых, Парычы — у немцаў. Родны дом за два крокі, ды паспрабуй, зайдзі ў яго! Таму і ваяваў салдат з падвойным зарадам нянавісці і помсты.

Можна забыць многае, толькі не тую атаку. Калі гэта было? Напярэдадні сорак чацвёртага? Рота ўзнялася, паблiскваючы сталлю штыкоў. Уперад, толькі ўперад! Раптам зусім блізка маланкай выбухнула полымя, нешта балюча ўдарыла збоку, і пахiнулася, паплыла перад вачыма зямля...

Цяжкае раненне і кантузія вывелі са строю салдата, маладосць і нянавісць вярнулі ў строй. Пасля шпіталю хацелі спісаць «пад чыстую», але спакойна, хаваючы хваляванне, сказаў урачу салдат:

— Адчуваю сябе добра.

Схлусіў — другі і апошні раз у жыцці.

Усё ж такі, хоць і паслалі ў дзеючую армію, запісалі ў «трудавікі». Былі такія байцы другога эшалона. З імі давялося ўдзельнічаць у баях. 26 чэрвеня, у дзень вызвалення Парыч, наведаў свой дом. Дом? Яго не было. Былі толькі руіны. Чакала тут Усевалада Мігая і горкая вестка аб гібелі бацькі.

Суткі на папялішчы здаліся вечнасцю. Зноў пайшоў ваяваць салдат, дайшоў да Берліна, і толькі пасля вайны дала сябе адчуць даўняя траўма. Неяк на разгрузцы ваенных матэрыялаў раптам ціхенька войкнуў, паваліўся, пляснуўся вобзем, у вачах згасла святло...

У сорак шостым годзе прыехаў хлопец у Парычы назаўсёды, разам з няхітрымі салдацкімі рэчамі прывёз кніжачку з кароткім і выразным надпісам: інвалід Айчыннай вайны другой групы. Інвалід — у няпоўныя дваццаць год!

Але ён усё ж працаваў тады, падрыхтаваўся і здаў экзамены на кінамеханіка. Малады арганізм мабілізаваў усе сілы, што яшчэ былі ў параненым целе. Цяжка было (кінамеханік павінен быць зусім здаровым чалавекам), але трымаўся. Побач былі сябры, верны спадарожнік жыцця, жонка Марыя Іосіфаўна, дарагі сябар, франтавы таварыш.

А хвароба падкрадвалася ўсё бліжэй і бліжэй. Нарэшце, яна нанесла рашучы ўдар. Паралюш. Хадзіць Мігай ужо не мог...

І вось ён ляжыць і думае. Думае пра сэнс жыцця.

...Цудоўная гэта рэч — жыццё. Ён любіць яго, вельмі моцна любіць. Ён і тысячы тысяч падобных да яго ішлі на смерць у імя гэтай любві — і хіба гэта не найвялікшая яе мера.

Але ў чым сэнс існавання для салдата, што выйшаў са строю? Сям'я, дзеці? Яму павялічылі пенсію, ён забяспечаны неабходным. Толькі... толькі проста жыць—мала. Вельмі і вельмі мала.

Ён не саромеўся ніякай работы: плёў кошыкі, падшываў валёнкі, маляваў слабымі рукамі кінарэкламу для мясцовага клуба. Гэта была праца—тое, без чаго не можа і не павінен жыць чалавек. І ён ганарыўся гэтым. Але часам на яго находзіў востры смутак. Чалавек здольны зрабіць шмат, але не можа... І тады прыходзіла душэўная слабасць. Ён стараўся перамагчы яе.

Табе цяжка? Так. А Марэсьеў? А Павел Карчагін? Ім было лягчэй? Яны ж занялі свае месца ў страі... Ён зноў у каторы раз даставаў з-пад падушкі і перачытваў кнігу, на вокладцы якой быў намаляваны чалавек у камбінезоне, што поўз і поўз праз снягі.

Людзі савецкія, улада савецкая не пакінулі ў бядзе Усевалада Мігая. Некалькі разоў ездзіў ён на курорт і ў санаторыі. Вялікай радасцю стаў для Мігая дзень, калі ён атрымаў мотакаляску. Ён зноў мог быць сярод людзей, а іх прысутнасць дзейнічала лепш за любы бальзам.

Прага жыцця прачнулася ў ім з новай сілай. Хворы і слабы чалавек, ён шмат чытаў. Кніга адкрыла яму свет цудоўнага і прыгожага. Мігай чытаў і вучыўся. Самастойна вывучаў прадметы, што ўваходзяць у праграму сярэдняй школы. Вучыўся штодзённа, упарта, настойліва.

Хто ведае, калі і як у чалавека з'яўляецца жаданне нешта напісаць самому. Хаця б просты допіс у сваю раённую газету. Раптам узнікае патрэба некаму падзякаваць праз газету, паскардзіцца на несправядлівасць ці проста напісаць аб добрым таварышы. Так і ў жыцці Усевалада Яўгенавіча Мігая нарадзіўся першы допіс.

З таго часу артыкулы, карэспандэнцыі, заметкі за подпісам «У. Мігай» усё часцей з'яўляліся ў друку. І не толькі ў раённай газеце. Расло майстэрства сельскага карэспандэнта, мацнела яго пяро. У «Известиях», «Звяздзе», «Літаратуры і мастацтве», «Знамени юности», мясцовых выданнях у апошнія гады было многа матэрыялаў Усевалада Мігая.

Сельскі карэспандэнт пісаў і піша аб знатных земляках — рэвалюцыянерах, героях вайны і працы, людзях навукі і культуры, простых працаўніках вёскі, байцах сямігодкі. Герой Савецкага Саюза Сяргей Анішчанка, што загінуў у змаганні за Радзіму, і перадавая свінарка раёна, зямляк-кампазітар Аладаў і сціплы старшына міліцыі, людзі родных Парыч і пісьменнікі-землякі — вось галоўныя героі матэрыялаў Усевалада Мігая. Піша і пра адмоўныя з'явы. Піша з клопатам пра агульную справу, са шчырым імкненнем дапамагчы ў выпраўленні недахопаў.

Іншы абывацель, магчыма, прачытае гэтыя радкі і пацісне плячыма: піша? Ну, дык што? Мае час, вось і піша...

Аўтар гэтых радкоў бачыў, як піша Усевалад Мігай. Кволыя пальцы з цяжкасцю трымаюць пяро, яно дрыжыць, расцякаюцца па паперы словы...

Увесь гэты час ён змагаўся з хваробай, кожны матэрыял пісаў з напружаннем, з запалам змагара. Аднак адчуваў сябе шчаслівым— паранены, але моцны духам салдат, які зноў стаў у строй.

Нядаўна ў «Известиях» быў надрукаваны артыкул Мігая «Усюды ў жыцці ёсць месца подзвігу». Размова ў ім ішла пра землякоў аўтара—людзей вялікіх і высакародных сэрцаў. Гэты артыкул змешчаны таксама ў брашуры «Известий» «Высакароднасць — як мы яе разумеем». Ён усхваляваў чытачоў, у рэдакцыю і аўтару прыйшлі дзесяткі пісем і водгукаў. І толькі нямногія з тых, што чыталі «Известия», ведалі, што аўтар артыкула — сам сапраўдны герой, а тое, што робіць ён, таксама можа называцца подзвігам...

Селькор спрабаваў сілы ў мастацкай творчасці. Адно з яго невялікіх апавяданняў атрымала першую прэмію на конкурсе раённай газеты. Піша У. Мігай таксама рэцэнзіі на прачытаныя кнігі і нарысы. Некалькі яго апавяданняў змясціў «Вожык».

Сэнс жыцця... У чым ён? Старое, адвечнае пытанне... Сэнс жыцця ў служэнні людзям. Менавіта аб гэтым заўсёды думае Усевалад Мігай, калі бачыць вынікі сваёй працы — надрукаваныя ў газетах матэрыялы, дзе расказана пра жыццё, працу простых савецкіх людзей.

І яшчэ думае ён — чалавек у нас не адзінокі. Калі ён сумленны і працавіты, дык заўсёды адчуе локаць сябра. Хіба не яны — гэтыя добрыя, слаўныя людзі — і маскоўская журналістка Тацяна Тэс, і супрацоўнікі раённай газеты, і землякі-парычане, якія шчыра жадаюць яму поспехаў, і Маша Яфрэменка — брыгадзір брыгады камуністычнай працы Мінскага велазавода, якая шэфствуе над ім,—хіба не яны падтрымалі і падтрымліваюць у цяжкую хвіліну, надаюць бадзёрасць цёплай парадай і словам прывітання натхняюць на новую працу?

Нас цяжка здзівіць пасля подзвігаў Астроўскага і Марэсьева, Гагарына і Матросава, пасля спраў тысяч і тысяч нябачаных у гісторыі чалавецтва па сіле духу, мужнасці і гераізму людзей. Аўтар гэтых радкоў сустракаў сляпога паэта Гаўрыіла Шутэнку, які пісаў, што са старонак кнігі глядзяць на паэта яго вершы, чуў пра тысячы падобных людзей, якія не скарыліся ў барацьбе з нялёгкім лёсам і засталіся ў страі. І ўсё-такі кожны раз імі захапляешся, і міжвольна хочацца сказаць: якія ж цудоўныя нашы савецкія людзі!

...Над гарадком устае світанне, з ім прыходзіць і новы працоўны дзень. Ён, гэты новы дзень працы, не госцем, а гаспадаром прыходзіць на Камсамольскую 19, дзе жыве слабы фізічна, але моцны духам і воляй чалавек, чыё жыццё — яшчэ адна хвалюючая аповесць пра змагара і салдата, што застаўся ў страі.

**Б. ФІРШТЭЙН.**

# З СЭРЦАМ І ПЕРЦАМ

***Літаратурныя пародыі***

## Аб сабе

*Рыгор Барадулін.*

Амаль што з яечка — ледзь
голас падаў —
Прызналі мяне ўсе кудзеснікам.
І смешна цяпер мне глядзець,
і шкада,
Як чосу даюць равеснікам.

Цікава, ці зіркалі б так на мяне,
Ці цацкаліся б, як з цацкай,
Каб цэлым цыклам аб цаліне
Не ўцэліў у цэль нянацкам?

А я ж не кудзеснік!
Я ж часта ўсю ноч
Пакутай пакутнай пакутую.
Не сплюшчыш да самае раніцы
воч,
На думку ўзаб'ешся пакуль тую.

Падчас я не знаю, што з словам
рабіць —
Навыварат выварачваю,
І лепшага сябра з-за рыфмы
забіць
Магу пад руку гарачую.

## Я іду

*Генадзь Бураўкін.*

Я іду, беспрычынна радасны,
Не дзяцюк —
смяхоцце адно:
Грудзі пафас распёр бязрадасны
І п'яніць мяне, як віно.

Сам не знаю,
чаго так весела!
Ліст і Бах у вушах звіняць,
І не то што сяброў-равеснікаў—
Кожны слуп
я гатоў абняць!

Я іду
на бяду зайздроснікам.
Добра йсці,
калі ты паэт,
І табе ўсяго дваццаць з
хвосцікам,
І дзяўкі —
табунамі ўслед!

Быў бы ў большым яшчэ
парыве я,
Каб не блыталася брыда —
Вузкаштонная,
даўгагрывая
І вусатая
шантрапа!
Іншы цягнецца,
як засупонены,
Я ж на крыллях лячу над
зямлёй,
Бо я ўвесь
да краёў
напоўнены
Весняй радасцю —
толькі ёй!

## Жырафа і цюлень

*Васіль Маеўскі.*

Аднойчы неяк раз
Цюлень з Жырафай падружыўся
І пабажыўся,
Што халасцяк, і хоча з ёй
жаніцца.
Жырафа ж, ведама, дурніца —
Цюленя ў хату прывяла,
Паіла
І карміла
І ключ ад шафы аддала.
Прыйшла дадому ўвечары
Жырафа —
Цюленя след прастыў
І... што?
Пустая шафа!

Мараль?
Мараль заўжды ёсць у запасе,
Пішу яе уласнаручна:
Трымайце
грошы
у ашчаднай касе:
Надзейна, выгадна і зручна!

**Антось КУДЗЕЛЯ.**

## Беларускія артысты на цаліне

Шэсцьдзесят два канцэрты для працаўнікоў цалінных зямель наладзіла канцэртная брыгада Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Беларускія выканаўцы — спевакі Э. Міцуль і Л. Чарнарук, канферансье Г. Бандарэўскі і З. Сысоева, танцоры С. Кальчэўскі і І. Карнейка, ілюзіяніст А. Нагайцаў, баяніст П. Шчаглоў выступалі ў калгасах, саўгасах і раённых цэнтрах Кустанайскай, Петрапаўлаўскай і Какчатаўскай абласцей.

Цалiннікі шчыра дзякавалі беларускім артыстам за цікавыя і змястоўныя канцэрты і ўзнагародзілі іх ганаровымі граматамі абласных аддзелаў культуры.

Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў Дзяржаўным выдавецтве БССР: «Палеская рапсодыя» Ул. Дубоўкі, «Чатыры пары года» Крысцёнаса Данелайціса, «Дзве аповесці» П. Галавача (на рускай мове), «За лясамі дрымучымі» А. Вольскага і П. Макаля.




### Польскі вучоны выбраны ў Міжнародную Акадэмію гістарычных навук

Вядомы польскі вучоны член-карэспандэнт Польскай Акадэміі навук Багдан Сухадольскі выбраны членам-карэспандэнтам Міжнароднай Акадэміі навук, якая знаходзіцца ў Парыжы. Да гэтага часу Польшча была прадстаўлена ў гэтай Акадэміі прафесарам Аляксандрам Біркенмайерам і прафесарам Баляславам Грынявецкім.

### Падпісанне плана культурнага супрацоўніцтва паміж Албаніяй і Балгарыяй

У Тыране падпісаны дагавор культурнага супрацоўніцтва паміж Албаніяй і Балгарыяй на 1961—62 г.г., які прадугледжвае правядзенне розных мерапрыемстваў, у адпаведнасці з культурным пагадненнем паміж Албаніяй і Балгарыяй.

Дагавор прадугледжвае абмен асобамі і матэрыяламі ў галіне навукі, асветы, культуры, мастацтва, музыкі і літаратуры.

### Перад Міжнародным конкурсам маладых оперных спевакоў

З 26-га чэрвеня по 10-е ліпеня 1961 года ў Сафіі будзе праходзіць Міжнародны конкурс маладых оперных спевакоў. Дагэтуль аб сваім жаданні прыняць удзел у конкурсе заявілі 54 спевакі — 5 з СССР, 10 з Балгарыі, 5 з Польшчы, 5 з Албаніі, 4 з Румыніі, 3 з Чэхаславакіі, 4 з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і Заходняй Германіі, 4 з Югаславіі, 7 з Аргенціны, 3 з Вялікабрытаніі, 1 з Францыі, 1 з Італіі, 1 з Іспаніі, 1 з Бельгіі.

Пра сваю згоду быць членамі міжнароднага журы конкурсу заявілі Аляксандр Пірагоў (СССР), Ева Бандароўска-Турска (Польшча), Вільмаш Комар (Венгрыя), Яраслаў Крамбхальц (Чэхаславакія), Тоці даль Монтэ (Італія), Петрэ Стэфанеску Гоанга (Румынія), Бернард Кіф (Вялікабрытанія), Нікола Чывіч (Югаславія), а таксама вядомы балгарскі спявак і педагог, які жыве ў Вене, З. Мінчаў.

### Зарубежныя студэнты ў Чэхаславакіі

Больш дзвюх тысяч зарубежных студэнтаў навучаецца цяпер у вышэйшых навучальных установах Чэхаславакіі. Гэта — прадстаўнікі 80 нацыянальнасцей з 63 краін Афрыкі, Азіі і Лацінскай Амерыкі.

Самую шматлікую групу складаюць студэнты з ААР, Ірака, Судана, Інданезіі, Гвінеі, Бразіліі, Самалі і Нігерыі. Апроч іх тут навучаюцца студэнты з Конга, Ганы, Гаіці, Занзібара, Бечуаналенда і г. д.

Як і чэхаславацкія, зарубежныя студэнты атрымліваюць дзяржаўныя стыпендыі і карыстаюцца ўсімі правамі, г. зн. бясплатным медыцынскім абслугоўваннем, лячэннем у бальніцах і г. д.

Апроч стыпендый, зарубежныя студэнты атрымліваюць рэгулярную дапамогу на адзенне.

## НАВІНЫ МАСТАЦТВА



Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў камедыю чэхаславацкага драматурга Б. Блажака «Трэцяе жаданне» (пераклад А. Макаёнка). У спектаклі заняты артысты: Б. Уладамірскі, Т. Аляксеева, С. Бірыла, І. Ждановіч, З. Стома, Т. Кін-Камінскі, З. Браварская, В. Краўцоў і іншыя.

Пастаноўку спектакля ажыццявіў рэжысёр В. Броўкін. Мастацкае афармленне К. Андрэева. Кампазітар Г. Вагнер.

**На здымку:** сцэна са спектакля «Трэцяе жаданне». У ролях: Веры — артыстка **Т. Аляксеева**, Пятра — артыст **Б. Уладамірскі.**

# У пошуках нацыянальнага гарнітура

У адзін з выхадных дзён мне давялося наведаць мінскі фірменны магазін Белмастакпрамсаюза. Я пачула гутарку дзяўчат з прадаўшчыцай.

— Ды што гэта за парадкі,—абураліся дзяўчаты. — У сталіцы рэспублікі нельга набыць беларускі народны гарнітур. Наша сяброўка Марына, работніца аўтамабільнага завода, выходзіць замуж, і калектыў зборачнага цэха наладжвае камсамольскае вяселле. Рэгістрацыя шлюбу будзе ва ўрачыстай абстаноўцы, — тлумачылі яны.—Па народнаму абраду на вяселлі будуць ша́феры і ша́феркі. Гэты гонар выпаў нам. І вельмі хочацца быць апранутымі ў народныя гарнітуры. А дзе іх купіць?

Праўда, вышываныя блузкі, сукенкі з беларускім арнаментам, хоць і дарагія, але ёсць у продажы. Затое спадніцы са зборкамі, з каляровым шлякам унізе або ў рознакаляровыя палосы ці клятчатай, фартуха, адпаведных чаравікаў купіць немагчыма.

Прэтэнзіі маладых работніц аўтазавода да работнікаў гандлю нагадалі мне адну сустрэчу.

Юнакі і дзяўчаты вёскі Бабровa ехалі на раённы агляд мастацкай самадзейнасці. Пазнаёміліся мы ў аўтобусе, які ішоў у Лепель. Моладзь жвава вяла гутарку пра калгасныя справы, а больш за ўсё пра работу мясцовага клуба. Калі ж размова пайшла аб выступленнях самадзейнасці, настрой змяніўся.

— Падрыхтуем самадзейнасць, а паказаць яе не заўсёды ёсць магчымасць,—расказваў высокі чарнявы хлопец, з баянам.—Для выступлення патрэбны народныя гарнітуры, а дзе іх возьмеш? Вось і цяпер ледзь не сарвалася наша паездка. Калі б не старанныя дзяўчаты, дык сядзелі б мы дома. Не адну ноч давялося ім не даспаць, пакуль падрыхтавалі сабе гарнітуры, вышылі нам, хлопцам, кашулі, пашылі штаны. А колькі клопату было, пакуль дасталі патрэбны абутак!

— А хіба нельга заказаць усё гэта ў пашывачнай майстэрні?—пытаюся я.

— Бытавая майстэрня звычайны касцюм і то шые больш чым паўтара месяца, а вышыўку ці аплікацыю наогул адмаўляецца рабіць. Даводзіцца ехаць у Віцебск, ды і там не вельмі пашыеш, бо заказ лічыцца занадта складаным. Вось таму і здараецца, што часта таленавітыя танцоры, спевакі, музыканты з-за адсутнасці касцюмаў не могуць удзельнічаць у канцэртах, на аглядах мастацкай самадзейнасці.

Небывалы размах набыла ў нашай рэспубліцы мастацкая самадзейнасць. Усё больш ствараецца народных і міжкалгасных тэатраў, харавых капэл. У сувязі з гэтым, зразумела, і расце попыт на адзенне, абутак.

Пакуль жа ў рэспубліцы няма ніводнага магазіна па продажу тэатральнага рэквізіту, спецыяльных майстэрань, дзе б хутка можна было пашыць прыгожы народны гарнітур, абутак.

Беларускі народ стварыў тонкае па майстэрству, багатае і разнастайнае па тэхніцы мастацтва. Арнаментальная вышыўка, аплікацыі, набіўныя малюнкі на тканіне вельмі ўпрыгожваюць адзенне. Усім гэтым трэба больш шырока карыстацца ў швейнай прамысловасці.

Чаму ж цяжка набыць народны гарнітур?

Адно, што мастацкія саветы фабрык, атэлье, майстэрань не працуюць як след над паляпшэннем адзення. Па-другое, і гэта больш за ўсё крыўдна, што ўсё добрае, створанае нашымі мадэльерамі, не заўсёды становіцца здабыткам шырокага кола людзей.

Старшы мастак-мадэльер мінскага Дома мадэлей Г. Гадзіцкая, калі гутарка зайшла аб народных гарнітурах, запрасіла нас у цэх гатовай прадукцыі і з задавальненнем паказала адну за другой мадэлі.

Асабліва запомнілася спадніца з лёгкімі складкамі з баваўнянай тканіны, набіўным прыгожым малюнкам, блузка і безрукаўка з піке (мадэль №3611). Фасон просты, радуе вока натуральнасць і прыгажосць крою. Удала падабрана тканіна, спалучэнні колераў—мяккія. Увесь гэты гарнітур каштуе толькі 10 рублёў.

Можна з упэўненасцю сказаць, што калі б такія спадніцы і блузкі з'явіліся ў магазінах, многія жанчыны з радасцю купілі б і з задавальненнем насілі б іх. Прыцягваюць да сябе ўвагу і яшчэ мадэлі: халат (№ 1528), распрацаваны па матывах беларускай світкі, сукенкі пад дэвізам «Лянок», «Ураджай», ансамбль—чорнае шарсцяное паліто і рознакаляровая сукенка з малюнкам, распрацаваным па беларускіх матывах і інш. Усё гэта адзенне ў свой час было адобрана мастацкім саветам. Але яго нідзе не знойдзеш у магазінах.

Справа ў тым, што дакладна яшчэ не вывучаны попыт пакупніка. Работнікі швейнай прамысловасці лічаць, што акрамя ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, гарнітуры мала хто будзе купляць. Гэта памылкова. Калі пакупніку будзе прапанаваны прыгожы, пашыты з густам, з удала падабранай тканіны і да таго ж танны беларускі гарнітур, на яго абавязкова будзе вялікі попыт.

Шляхі да паляпшэння фасонаў аддзення па народных матывах, да якасці яго шыцця і асноўнае—да зніжэння кошту трэба знайсці. Рэспубліканскі мастацкі савет па адбору новых мадэлей адзення і абутку павінен сістэматычна наладжваць выстаўкі-паказы для шырокага агляду, адбіраць лепшыя ўзоры для заказаў фабрыкам.

**С. ПАШКЕВІЧ.**



На сцэне Беларускага тэатра оперы і балета выступіў саліст Варшаўскай оперы Багдан Папроцкі, які выканаў партыю Рычарда Уорвіка ў оперы «Баль-маскарад» і партыю Марыо Каварадосі ў оперы «Флорыя Тоска». Гастролі польскага спевака прайшлі з вялікім поспехам.

**На здымку** вы бачыце саліста Варшаўскай оперы Багдана **Папроцкага** ў ролі Каварадосі.



**Ленінград.** Тэатр оперы і балета імя С. М. Кірава паказаў прэм'еру балета «Сёмая сімфонія», створанага на музыку першай часткі Сёмай («Ленінградскай») сімфоніі лаўрэата Ленінскай прэміі Д. Шастаковіча. Сцэнарый, харэаграфічная кампазіцыя і пастаноўка заслужанага артыста РСФСР І. Бельскага, мастак — М. Гардон.

**На здымку:** сцэна з балета. У ролі Юнака — артыст **А. Сакалаў**, у ролі Дзяўчыны — артыстка **К. Федзічава.**

Фотахроніка ТАСС.

## Пісьмо ў рэдакцыю

Дазвольце праз Вашу газету выказаць маю вялікую падзяку ўсім арганізацыям, установам і асобам, якія павіншавалі мяне з выпадку 50-годдзя з дня нараджэння.

**А. ЗАРЫЦКІ.**

**Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.**

**Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.**



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск | **АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара — 3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі — 3-11-03.** | **«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.**

АТ 00202

**Друкарня імя Сталіна.**